НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
№ 12 (897) 25 сакавіка 2015
www.nn.by
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Пагоня. Яна мая

Маладыя мастакі стварылі вершніцу — пасадзілі на «Пагоню» жанчыну. А стары мастак Крукоўскі за гэта падае на іх у суд. І ўсё гэта перад Днём Волі. Старонка 4.

25 сакавіка 1918 года была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Першы раз у новай гісторыі наш народ заявіў тады пра свае права на дзяржаву.

Што б ні верашчала прапаганда, беларусы павінны памятаць гэтую дату, калі яны беларусы. У 1918 быў пакладзены пачатак.

Гісторыя ХХ стагоддзя дае нам ясную навуку. Калі Беларусь пастановіць, ніхто не стрымае яе ў жаданні збудаваць свой моцны і зручны еўрапейскі дом. Такі, які ў ХХ стагоддзі ўзвялі фіны, эстонцы, чэхі... Але для гэтага трэба мудрасць і нацыянальнае адзінства.

# Прызыўная армія вяртае сабе папулярнасць у неспакойнай Еўропе

**Агрэсіўная палітыка Расіі выклікала занепакоенасць на Захадзе.**

**Як пераканаць грамадзяніна абараняць незалежнасць Беларусі, калі ў нас усслаўляюцца выключна перамогі арміі той краіны, развал якой у 1991 годзе і даў Беларусі незалежнасць, а сам той развал малюецца як трагедыя?**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Краіны Еўропы, якія адмянялі прызыў у 1990-я і 2000-я, лічачы, што пагроза вайны ў Старым Свеце стала мінімальнай, зноў звяртаюць сваю ўвагу на класічны спосаб папаўнення арміі і падрыхтоўкі рэзервістаў.

Прычынай гэтага стала расійская анексія Крыма і распальванне Масквой канфлікту на ўсходзе Украіны, што выклікала занепакоенасць ва ўсіх заходніх суседзяў Расіі.

Самай першай у 2014 годзе вярнулася да прызыву Украіна, якая на фоне вайны амаль з нуля пачала ствараць новую армію. Прызыў ва Украіне адмяніў у 2013 годзе тагачасны прэзідэнт Віктар Януковіч.

У сакавіку 2015 года вярнула прызыў у войска Літва — пакуль што на 5 гадоў.

«У адказ на змены геапалітычнай сітуацыі ў рэгіёне мы мусім дадаткова ўзмацніць нашыя абарончыя магчымасці. Такім чынам было прынятае рашэнне часова аднавіць абавязковую вайсковую службу», — патлумачыў прэм'ер-міністр Альгірдас Буткявічус.

Пра вяртанне да прызыву думае і Латвія, а Эстонія і не адмаўлялася ад яго. У выніку пры насельніцтве трохі большым за 1,3 мільёна чалавек Эстонія мае 219 тысяч рэзервістаў, а таксама 22,5 тысячы чалавек у добраахвотніцкай Лізе абароны Эстоніі.

У Чэхіі ўрад таксама плануе аднавіць абавязковую вайсковую службу. Такі крок падтрымліваюць 63% мясцовых жыхароў.

«Час сур'ёзна думаць пра тое, як дзяржава будзе абараняцца ад нападу. Хто яе абароніць да таго, як нам на дапамогу прыйдуць саюзнікі? Сучасная 20-тысячная армія няздольная абараніць нашу тэрыторыю. У нас няма падрыхтаваных рэзервістаў. Няма іншага варыянту, як зноў вучыць моладзь выкарыстоўваць зброю для абароны краіны», — заявіў прэм'ер Багуслаў Собатка.

«Прыклад Украіны дэманструе, што канфлікты могуць хутка распаўсюджвацца і адбывацца адносна блізка (ад Чэхіі)», — адзначыў міністр абароны Чэхіі Марцін Страпніцкі.

У Польшчы вярнуцца да прызыву заклікае галоўная апазіцыйная партыя «Права і справядлівасць». Яе ў гэтым пытанні падтрымліваюць як мінімум 60% апытаных. Рашучасць прыхільнікаў прызыўной арміі выказаліся ў сакавіку 2015 года толькі 14% палякаў.

Таксама захоўваюць абавязковую тэрміновую службу ў нашым рэгіёне Фінляндыя, Малдова, Нарвегія. Амаль усе астатнія маюць законы, якія дазваляюць хутка ўвесці прызыў у выпадку вайны.

Гэтак, напрыклад, падчас Першай сусветнай вайны ў 1916 годзе Вялікабрытанія пачала прызываць рэкрутаў на службу, у мірны час адмяніла прызыў, а потым увяла яго зноў у 1939 годзе, калі пачалася новая сусветная вайна.

Доўгі час быў пашыраны міф аб тым, што чыста добраахвотніцкая армія — гарантыя высокай эфектыўнасці, а прызыў несумяшчальны з прафесіяналізмам і высокай баяздольнасцю войска.

Аднак апошнія падзеі ва Украіне і тэндэнцыі абароннай палітыкі ў суседніх краінах сведчаць пра тое, што нават у высокатэхналагічнай вайне масавы прызыў і падрыхтаваныя рэзервісты даюць перавагу той краіне, якая яго ўводзіць.

З гэтага пункту гледжання тое, што Беларусь захавала прызыў, дапамагае захоўваць абараназдольнасць краіны. Але іншая справа, што любой арміі патрэбнае добрае забеспячэнне — грошы на тэхніку, паліва і ўсё іншае для падтрымання баяздольнасці, для рэгулярных і інтэнсіўных вучэнняў прызыўнікоў і салдатаў рэзерву.

**Аляксандр Гелагаеў**

# Механізатары забастоўкай дабіліся змены старшыні СВК

17 сакавіка механізатары гаспадаркі ў Хоцімскім раёне адмовіліся выязджаць на працу, пакуль не будзе заменены старшыня СВК «Кастрычнік-Бярозкі» Мікалай Саўчанка.

Заробкі на прадпрыемстве былі невялікімі, да таго ж Саўчанка па-хамску ставіўся да супрацоўнікаў. Урэшце людзі не вытрымалі і пайшлі на крайнія захады.

Пасля такой заявы ад механізатараў у СВК «Кастрычнік-Бярозкі» адразу ж прыехалі прадстаўнікі Хоцімскага райвыканкама. Яны ўгаварылі людзей распачаць працу, паабяцаўшы ўжо бліжэйшым часам замяніць старшыню.

І сапраўды, з 24 сакавіка выканаўцам абавязкаў старшыні прызначаны Мікалай Кокатаў, які раней ужо ўзначальваў гаспадарку.

**Улад Швядовіч**

# Рабавалі і забівалі да смерці

**Яшчэ двум мужчынам пагражае смяротнае пакаранне.**

Злачынствы былі здзейсненыя яшчэ летась. У ліпені ў адзін з дамоў вёскі Берасні Бешанковіцкага раёна ўварваліся двое невядомых у масках. Яны збілі гаспадароў, мужа і жонку, драўлянымі палкамі, скралі 1 мільён рублёў і ювелірныя ўпрыгажэнні. У выніку нападу жанчына доўгі час знаходзілася на лячэнні, а яе муж памёр у бальніцы.

Праз тыдзень аналагічнае злачынства адбылося ў вёсцы Падлазнікі Віцебскага раёна. Там рабаўнікі скралі не менш за 300 000 рублёў, залатыя ўпрыгажэнні і мабільнік. Гаспадара дома збілі так, што ён праз тыдзень сканаў.

Затрымалі дваіх мужчын, 1973 і 1976 года нараджэння, якія раней разам сядзелі на зоне. Падчас затрымання ў іх знайшлі рэчы пацярпелых.

**УШ**

# «Логвінаў» сабраў усю суму для штрафу

Кнігар Ігар Логвінаў падзякаваў прадстаўнікам грамадскасці, якія дапамаглі сабраць суму для сплаты ў даход дзяржавы. Эканамічны суд Мінска пастанавіў аштрафаваць ПВУП «Логвінаў» на 5,4 мільёна рублёў за ажыццяўленне незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, а таксама канфіскаваць даход, летась атрыманы юрыдычнай асобай (960 мільёнаў рублёў).

**БелаПАН**

## Сцісла

### Памёр заснавальнік Сінгапура

Лі Куан Ю памёр на 92-м годзе жыцця ад цяжкай пнеўманії. «Бацька сінгапурскай нацыі» кіраваў востравам на пасадзе прэм'ер-міністра на працягу 31 года, з моманту як Сінгапур атрымаў незалежнасць у 1959 годзе. Эканамічныя рэформы, пачатыя палітыкам, прывялі былую брытанскую калонію да эканамічнага дастатку, аднак праваабаронцы крытыкавалі Лі за абмежаванне палітычных і асабістых свабод грамадзян.

### Удыхнуў сінільную кіслату

Слесар наваполацкага завода «Палімір» пры выкананні работ удыхнуў пары сінільнай кіслаты і, страціўшы прытомнасць, упаў з вышыні ўласнага росту. Ён шпіталізаваны з вострым атручваннем і закрытай чэрапна-мазгавой траўмай. Следчы камітэт праводзіць праверку інцыдэнту.

### 12 гадоў за дзяржаўную здраду

Афіцэра прызналі вінаватым у перадачы сакрэтных звестак аб размяшчэнні ўкраінскіх войскаў у Данбасе супрацоўнікам ФСБ. Асуджаны перадаваў Расіі паролі і пазыўныя, а таксама звесткі аб маршрутах перамяшчэння і радыёчастотах украінскіх баявых самалётаў.

### Геолагі знайшлі найвялікшы метэарытны кратар на Зямлі

Кратар памерам 450 на 300 км знойдзены ў цэнтры Аўстраліі. Ён утварыўся ад удару аб Зямлю метэарыта дыяметрам 20 км — у два разы большага за той, які, паводле адной з тэорый, забіў дыназаўраў. Навукоўцы маюць тэорыі аб існаванні на Зямлі яшчэ больш кратараў — 500-кіламетровых у Канадзе, Індыі і Антарктыдзе ды 600-кіламетровага на поўначы Аўстраліі.

**АА, ЯМ**

## Апытанні на nn.by

**Ці сутыкаліся Вы з фактамі дыскрымінацыі за беларускую мову, беларускую свядомасць?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 937 | 62% |
| Не | 190 | 12% |
| Чуў, але сам не сутыкаўся | 265 | 18% |
| Хай паспрабуюць! | 115 | 8% |

Прагаласавала 1507 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 18—24 сакавіка

1. У пятніцу — сонечнае зацьменне, у Беларусі будзе яснае надвор'е
2. Над Беларуссю назіралася сонечнае зацьменне ФОТЫ
3. «Быць поўнай не страшна». Аголеныя мадэлі plus size ускалыхнулі беларускае грамадства
4. Віктар Малышчыц: Сёння ўначы было нерэальна крутое відовішча! ФОТЫ
5. Прыхільнікі «рускага міра» назвалі святкаванне Дня Волі «шэсцем фашыстаў»
6. Крыніцы з атачэння Януковіча паведамілі пра гібель яго сына на Байкале
7. Аўтар эталона «Пагоні» рыхтуе пазоў у суд на маладых дызайнераў за зняважанне герба
8. Глеб Лабадзенка: Я гатовы ісці ў партызаны, пускаць цягнікі пад адхон
9. Гіркін-Стралкоў: Я мару пра Расію ў межах 1939 года
10. 10 найлепшых беларускіх фільмаў

# Анатоль Лябедзька: для Крамля Кабякоў больш прывабны за Лукашэнку

У Рэдакцыі «Нашай Нівы» адбылася анлайн-канферэнцыя з лідарам АГП Анатолем Лябедзькам, які мае намер удзельнічаць у сёлетніх **прэзідэнцкіх выбарах**. Прыводзім вытрымкі з гутаркі.

**«Наша Ніва»: Чаму так позна пачынаецца перадвыбарчая кампанія?**

**Анатоль Лябедзька:** Не сказаў бы, што позна. Яшчэ ў маі 2014 года з'езд АГП прыняў рашэнне, што мы будзем удзельнічаць у палітычнай кампаніі 2015 года, пажадана са сваім кандыдатам.

**«НН»: Раней казалі пра вылучэнне Міколы Статкевіча. Вы б хацелі, каб ён быў адзіным кандыдатам ад апазіцыі?**

**АЛ:** Мы хацелі, каб ён быў вызвалены, каб з яго былі знятыя ўсе абмежаванні. Тады б мы разглядалі яго ў якасці адзінага. Але ж мы рэалісты — сёння Статкевіч знаходзіцца за кратамі, яго магчымасці абмежаваныя. Ён добры спікер для палітычна актыўных людзей. Але ж мы ўсведамляем, што ёсць вялізная колькасць людзей, для якіх патрэбна іншае пасланне.

**«НН»: Якія тэмы ў перадвыбарчай кампаніі Вы будзеце падымаць?**

**АЛ:** Калі гаворым пра штодзённую дзейнасць, то яна была і ёсць. Галоўнымі пасыламі нашай кампаніі будуць:

1. Змяншэнне прысутнасці дзяржавы ў жыцці грамадзян. На сёння дзяржава выконвае каля 7000 функцый. Было б добра, каб іх мы маглі зменшыць напалову. Людзі б гэта адчулі.

2. Гэта тое, што мы называем Новым эканамічным курсам. Гэта і праграма «Мільён працоўных месцаў», і антыкарупцыйная платформа. Калі гэтага не рабіць, то прагнозы сумныя. Заробак да канца года можа скаціцца да $250—300. Колькасць стратных прадпрыемстваў дасягне пяці тысяч. Курс рубля можа ўпасці да 20 тысяч за даляр. А інфляцыя складзе 30%.

**«НН»: Вы разглядаеце такі варыянт, што Крэмль можа паспрабаваць скінуць Лукашэнку?**

**АЛ:** Аляксандр Лукашэнка стратэгічна цалкам задавальняе Крэмль. Лепшага кандыдата для Крамля ў Беларусі складана прыдумаць. Але прафесійная палітыка — гэта наяўнасць некалькіх сцэнароў. Думаю, у Маскве разглядаюць многія варыянты. Першы варыянт: гэта Аляксандр Лукашэнка — прэзідэнт. Але я не выключаю, што на сённяшні момант той жа Андрэй Кабякоў для Крамля быў бы больш прывабным за Лукашэнку. І, можа, дзесьці гэта разглядаецца.

**«НН»: Як Вы ацэньваеце ролю Уладзіміра Пуціна для Расіі?**

**АЛ:** Ёсць плюсы і мінусы. Калі мы кажам пра плюсы, то Пуцін ацвярозіў Захад. Там былі такія пласты грамадскай думкі, што Расія можа быць партнёрам. На бліжэйшыя 50 гадоў гэта знікае. Давер знішчаны. У астатнім — вельмі моцныя мінусы. Найперш — гэта перагляд межаў. А гэта значыць — вайсковыя канфлікты, чалавечыя жыцці. Гэта вельмі сумна.

**«НН»: У цяперашняй беларускай уладзе Вы бачыце сумленных людзей?**

**АЛ:** Яны ёсць. У сваю каманду я б уключыў Паўла Калаўра, які ўзначальвае Нацбанк. Ён прафесіянал. У нашай камандзе і сістэме каардынат Калаўр яшчэ больш эфектыўна рабіў бы сваю справу. Шмат такіх людзей. Яшчэ шмат тых, хто быў вымушаны з'ехаць з Беларусі. Калі б ім усім прапанаваць новы эканамічны курс, то пад гэта можна было б стварыць якасную каманду.

**«НН»: Ці ёсць гарантыя, што пры змене ўлады ў Беларусі не адбудзецца ўмяшанне знешніх сілаў?**

**АЛ:** Мабыць, ніводная сусветная страхавая кампанія не возьмецца страхаваць такія пагрозы і выклікі. НіякаяАДКБ не дае гарантый бяспекі для Беларусі. Нашы ўлады захапіліся такім вось вобразам «голуба міру» і занятыя зусім не тым. Мне здаецца, што сёння галоўнае — сканцэнтраваць усе палітычныя і дыпламатычныя сілы, каб напоўніць Будапешцкі мемарандум новым зместам і прапісаць абавязкі ўсіх бакоў. А таксама санкцыі за парушэнне гэтых абавязкаў. Гэтага раней не было, былі толькі прыгожыя словы. Нам трэба ісці гэтым шляхам, беручы ў хаўруснікі Казахстан, Украіну, краіны Балтыі, Польшчу.

**«НН»: Ці ёсць сэнс склікаць Плошчу?**

**АЛ:** Час дынамічны. Да снежня 2014 нельга было нават гаварыць усур'ёз пра выбарчую кампанію. Маўляў, няма нічога цікавага, няма інтрыгі. Але інтрыгу ўносіць эканоміка. Мы ўлічваем гэта і прагназуем, што сітуацыя будзе толькі пагаршацца. Гэта дае шанец апазіцыі на размову з людзьмі, з хісткімі прыхільнікамі пераменаў. Сёння падаецца, што Плошча ў людзей не стаіць у парадку дня. Сёння гэта не актуальна, але заўтра можа зноў стаць актуальным. У людзей павінна заставацца права на мірны пратэст.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



У сваю каманду я б уключыў Паўла Калаўра, які ўзначальвае Нацбанк

ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

# Bloomberg: «Лабараторыя Касперскага» супрацоўнічае з ФСБ

Былыя і цяперашнія работнікі антывіруснай «Лабараторыі Касперскага» супрацоўнічаюць з расійскімі спецслужбамі, некаторыя работнікі кампаніі дапамагаюць ФСБ у расследаванні крымінальных злачынстваў, выкарыстоўваючы інфармацыю аб кліентах, паведамляе амерыканскае інфармацыйнае агенцтва Bloomberg.

Заснавальнік і кіраўнік кампаніі Яўгеній Касперскі сам працаваў у ФСБ. У 2012 годзе з кампаніі сышлі высокапастаўленыя менеджары, замест іх прыйшлі людзі, у якіх былі цесныя сувязі з расійскімі вайскоўцамі або разведвальнымі структурамі.

Некаторыя з іх цесна супрацоўнічалі з ФСБ і дапамагалі ведамству раскрываць крымінальныя справы, выкарыстоўваючы пры гэтым базу, у якой былі дадзеныя аб 400 мільёнах кліентаў кампаніі.

Яўгеній Касперскі кожны тыдзень ходзіць у лазню ў групе з пяцідзесяці чалавек. Сярод іх часта бываюць супрацоўнікі расійскіх спецслужбаў. Сам ён тлумачыць, што паход у лазню носіць выключна сацыяльны характар. Паводле яго слоў, гэта дапамагае супрацоўнікам «пасябраваць».

Касперскі заявіў, што значная частка расследавання Bloomberg — хлусня, заснаваная на непраўдзівай інфармацыі і няслушна патлумачаная.

**Паводле Bloomberg**



**Яўгеній Касперскі**

Нарадзіўся ў 1965. Скончыў матэматычны факультэт Вышэйшай школы КДБ (1987), працаваў у НДІ пры Міністэрстве абароны СССР. Разам з былой жонкай стаў сузаснавальнікам «Лабараторыі Касперскага», якая спецыялізуецца на выяўленні камп'ютарных вірусаў. Доля кампаніі на сусветным рынку антывірусных праграм складае каля 8%. Часопіс «Форбс» ацэньвае багацце Касперскага ў $900 мільёнаў.

# Імгненная асіміляцыя

**Доля рускіх** у насельніцтве Крыма вырасла з 58% да 68%.

Расійскія ўлады паведамілі вынікі перапісу насельніцтва на паўвостраве. Украінцы і беларусы Крыма масава запісваліся — або іх масава запісвалі — рускімі. У выніку іх доля ў насельніцтве рэзка вырасла. Рускіх налічылі 1,5 мільёна (68%). У 2001 годзе доля рускіх складала 58% (у 1897 годзе рускіх было 33%, а крымскіх татараў — 35%, паведамляе Вікіпедыя).

Доля ўкраінцаў у Крыме, паводле новага перапісу, знізілася з 24 да 16%.

Трэцяя па колькасці група — крымскія татары, якіх, паводле перапісу, пражывае 232,3 тысячы чалавек (10,6% насельніцтва). Акрамя таго, яшчэ 45 тысяч чалавек (2%) назвалі сябе татарамі, не назваўшы нацыянальнасць (крымскія татары) цалкам.

Караімаў (цюркамоўны народ, што спавядае варыянт юдаізму) засталося 535 чалавек. Крымчакоў — 228 чалавек.

**Сяргей Гезгала**

# Рух «За Свабоду»: абмяжуйце трансляцыю расійскіх каналаў у грамадскіх месцах

Рух «За Свабоду» выступіў з заявай, датычнай трансляцыі расійскіх тэлеканалаў у Беларусі. «Апошнім часам расійскія тэлевізійныя каналыператварыліся ў рупары неаімперскага мілітарысцкага рэваншызму. У выніку грамадзяне Беларусі, якія вымушаны існаваць у сацыяльна-культурніцкім і медыйным кантэксце неміралюбнай суседкі, становяцца ахвярамі пракрамлёўскай прапаганды», — адзначаюць складальнікі звароту.

«Акупацыі звычайна папярэднічае інфармацыйная вайна. Яе разгортванне супраць Беларусі можна назіраць ужо цяпер. Задача дзяржавы ў такіх варунках — зрабіць усё магчымае, каб мінімізаваць уздзеянне на грамадзян Беларусі плыняў вонкавай «гебельсаўшчыны», — пераконваюць «свабодаўцы».

Прадстаўнікі руху заклікаюць кіраўніцтва краіны спыніць у дзяржаўных установах і грамадскіх месцах трансляцыю расійскіх тэлеканалаў. З такой самай просьбай яны звяртаюцца да ўладальнікаў прыватных установаў (ад цырульняў — да кавярняў).

**Паводле rux.by**

**Апытанне на nn.by**

**Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб абмежаванні трансляцыі расійскіх каналаў у публічных месцах?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 65 | 51% |
| Не | 9 | 7% |
| Лепей хай Белсат, украінскія і еўрапейскія каналы ўключаць у кабельныя сеткі | 53 | 42% |

Прагаласавала 127 чалавек

# «Пагоня». Яна мая

Маладыя мастакі стварылі вершніцу — пасадзілі на «Пагоню» жанчыну. А стары **мастак Крукоўскі** за гэта падае на іх у суд. І ўсё гэта перад Днём Волі.

Напярэдадні святкавання Дня Волі мастак Уладзімір Крукоўскі выступіў з прэтэнзіяй да маладзёнаў, якія перарабілі герб «Пагоня». Стваральнікам эталона «Пагоні» на пачатку 1990-х былі Яўген Кулік і Крукоўскі.

Пісьменнік Алесь Плотка выдаў кнігу «Байсан», на вокладцы якой з'явілася «Вершніца». Выява падобная да гістарычнай «Пагоні», вось толькі замест вершніка на кані мастачкі Юлія Галавіна і Ліза Пастушэнка намалявалі дзяўчыну з распушчанымі валасамі.

«Вершніца» — гэта зборны вобраз. Найперш — муза, але і маці, і дачка, і каханка. Гэта спроба стварыць вобраз беларускай Жанчыны, аддзячыць ёй за жыццё, каханне і натхненне», — тлумачыць Плотка.

Крэатыўна, нечакана!

Але Крукоўскі абурыўся. Ён сцвярджае, што апошняй кропляй было, калі ён пабачыў здымак, на якім агалены Плотка прыкрывае сваёй кнігай з «Вершніцай» сароміае месца. Ён збіраўся судзіцца за абразу нацыянальнай святыні, а пасля пабачыў у малюнку парушэнне сваіх аўтарскіх правоў на «Пагоню».

Мастак патрабуе публічных прабачэнняў. Пад раздачу трапіў і кіраўнік «Арт-сядзібы» Павал Белавус, чыя крама Symbal.by прадае майкі з «Вершніцай».

Плотка і Белавус праз тэлеэфір «Белсата» і сацыяльныя сеткі выбачыліся перад Крукоўскім, але той усё адно хоча судзіцца.









**Інтэрнаўты нарабілі фотажартаў**



**Уладзімір Крукоўскі лічыць, што «Пагоня» — ягоная творчая спадчына.**

## «Сястрыца скрадзеная разам з канём»

Мастак даводзіць, што «Вершніца» створаная з эталона «Пагоні»: «У мяне ў камп'ютары 1179 выяваў пагоні, аж з дахрысціянскіх да нашых часоў. Аднак ніводная з іх Плотку не пасавала, бо эталон «Пагоні» добра знаёмы ўсяму даросламу насельніцтву Беларусі. «Вершніца» і «Пагоня» падобныя як брат і сястра. Брат старэйшы, мае законных бацькоў, юрыдычных і фізічных. А сястрыца скрадзеная, разам з канём. А хто яе скраў, лічаць, што яны яе парадзілі, выгадавалі, выхавалі, пасадзілі на каня і пусцілі наўскач па неабсяжных прасторах нашай дарагой радзімы».

«Гэта не мая «Пагоня», а наша з Яўгенам Кулікам, цяпер ужо нябожчыкам. Ён ужо 13 гадоў у зямельцы ляжыць, а можа, і не ляжыць — перавярнуўся ад усяго гэтага гвалту, — працягвае Крукоўскі. — Калі б да мяне прыйшлі з ідэяй, я б паглядзеў эскізы, паправіў бы малюнак, бо відаць, што мастачка акадэмій не канчала. Дастаткова паглядзець, як у «Вершніцы» рукі намаляваныя. Але ў друк можна пускаць толькі з адной спасылкай: што для малюнка выкарыстаны эталон герба «Пагоня». А так уціхую, пазлодзейску... Мабыць, яны думалі, што Крукоўскі ўжо памёр. А я яшчэ жывы».

## «Крукоўскаму няма чаго рабіць»

«Працу [па стварэнні эталона «Пагоні»] рабіў адзін Яўген Кулік, і дамова была заключана з ім, — нагадвае лідар КХП-БНФ Зянон Пазняк. — Дапамагалі кансультацыямі і прапановамі Купава, Марачкін, Крукоўскі, Ладуцька, Драчоў і іншыя нашыя мастакі».

Калі Куліку не заплацілі за эталон герба, мастак не пайшоў у суд. «Кулік разумеў, што тут не мусіла быць скандалу. Герб павінен быў застацца чыстым», — кажа Пазняк.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў, які на пачатку 1990-х быў у Вярхоўным Савеце старшынёй камісіі па пытаннях дзяржаўнай сімволікі, не разумее прэтэнзіі Крукоўскага: «Ну намалявалі прыгожую дзяўчыну на кані — і што тут кепскага? Трэба спыніць гэту бязглуздую дыскусію, бо Крукоўскаму відавочна няма чаго рабіць. Ніякага аўтарскага права ў яго няма і быць не можа, бо гэты малюнак — дзяржаўны сімвал. Цяпер «Пагоня» дзяржаўным гербам не з'яўляецца, але ж рэферэндум па адмене гэтай сімволікі быў незаконны. Прыйдзе час — і з'явіцца гэты герб там, дзе быў».




**Майкі з «Вершніцай» разлятаюцца ў краме як гарачыя піражкі.**




**Алесь Плотка (справа, трымае ў руках сваю кнігу з «Вершніцай» на вокладцы) і Наста Шпакоўская з гурту Naka зладзілі ню-фотасэсію за свабоду творчага самавыяўлення. Шпакоўская выканала «Малітву» Янкі Купалы, і цяпер з ёй судзіцца аўтар музыкі, кампазітар Алег Моўчан.**



**Літоўцы прадаюць майткі са сваёй «Пагоняй» — і нічога.**

## «Такія рэчы трэба кранаць асцярожна»

Паводле заканадаўства, дзяржаўныя сімвалы Беларусі не з'яўляюцца аб'ектам закона аб аўтарскім праве. Аднак цяпер эталон «Пагоні» аказаўся ў двухсэнсоўным юрыдычным статусе. Ён больш не дзяржаўны сімвал, але былы дзяржаўны сімвал.

«Калі б гэту кабету на кані творца намаляваў сам з пачатку да канца, усё было б добра. Але калі жанчыну проста прымалявалі да эталона герба, гэта парушэнне. Бо ёсць аўтарскія правы — і няхай у спрэчцы разбіраецца суд, — выказваецца мастак Алесь Марачкін. — Ёсць аспект і збачэнства. Калі маладзён прыкрывае пахвіну выявай «Пагоні», гэта знявага. Ёсць нейкія моманты, дзе пераступаецца маральны парог. Таму ў гэтай сітуацыі я цалкам на баку Крукоўскага».

«Калі б мой твор быў выкарыстаны без майго дазволу, я б таксама меў пэўныя прэтэнзіі», — кажа кіраўнік Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца.

«Малюнак пэўны час быў эталонам дзяржаўнага сімвала, таму скажаць яго ні ў якім разе нельга. Калі аўтар «Вершніцы» ўзяў графічны вобраз Крукоўскага і Куліка і толькі «прыклеіў» галаву, гэта няправільна», — каментуе сітуацыю фатограф Дзяніс Раманюк.

## «Пагоня — наша»

У сацыяльных сетках абсалютная большасць карыстальнікаў стала на бок Плоткі і «Арт-сядзібы». «Аўтары эталона ўсяго толькі апрацавалі ўжо існуючы вобраз, які належыць усёй нацыі, — вось самы тыповы аргумент людзей. — І чым больш памнажаюць яго цяпер, тым лепш для нацыянальнай свядомасці. І чым больш крэатыву, дзёрзкасці, тым лепш».

Кіраўнік «Арт-сядзібы» Павал Белавус не разумее, калі Крукоўскі змяніў сваю пазіцыю: «Мы актыўна супрацоўнічалі з ім апошнія паўгода, ладзілі выставу яго плакатаў, у тым ліку і эталону «Пагоні», праводзілі творчую сустрэчу, выстаўлялі яго плакаты на «Сваце роднай мовы»... Ён тады казаў, што да сучасных моладзевых варыянтаў «Пагоні» ставіцца спакойна, бо лічыць іх жартаўлівымі. Маўляў, хоць на ровары, хоць на вярблюдзе: я ніколі на гэта не пакрыўджуся. А тут раптам заявы пра суд... «Пагоня» — гэта наш супольны сімвал, які належыць усёй нацыі, а не толькі аўтару. Бо ў іншым выпадку атрымліваецца, што ў аўтара няма памкнення, каб ён зноўку стаў дзяржаўным. А ў нас гэтае імкненне ёсць, і мы стараемся, каб ён гэткім і заставаўся — нават калі не на паперы ды ў законах, дык хаця б у сэрцы кожнага беларуса».

«Пагоня» — дзяржаўны Герб. А Гербу — нішто не страшна. Як Госпаду Богу. І я не буду страляць у тых, хто робіць карыкатуры на Бога», — перакананы журналіст Сяргей Навумчык, які ў свой час, як дэпутат, прыклаў шмат намаганняў, каб «Пагоня» стала дзяржаўнай.

**Кірыла Хілько**

# Надзеі Польшчы, Літвы і Украіны на сланцавыя нафту і газ пакуль не апраўдаліся

Нафтавыя гіганты страцілі цікавасць да **распрацоўкі радовішчаў**.

Найбуйнейшыя нафтавыя кампаніі выдаткавалі мільярды даляраў, спрабуючы паўтарыць амерыканскі сланцавы бум у іншых краінах. Пяць апошніх гадоў многія краіны спадзяваліся дасягнуць энерганезалежнасці дзякуючы новым тэхналогіям. Але амаль нідзе надзеі не спраўдзіліся.

Chevron, ExxonMobil і Royal Dutch Shell згарнулі практычна ўсю дзейнасць па распрацоўцы сланцавых радовішчаў у Еўропе, Расіі і Кітаі. Прычыны розныя: у Расіі — санкцыі, ва Украіне — вайна, у Францыі і Балгарыі — забарона ўладаў, у Германіі — мараторый, у Польшчы і Румыніі — дрэнныя вынікі геолагаразведкі, а таксама зніжэнне цэнаў на нафту, якое робіць праекты эканамічна нявыгаднымі.




Падляшскі сланцавы басейн (жоўтым каля ўсходняй мяжы Польшчы) выходзіць і ў Беларусь каля Берасця, але ягоны патэнцыял нізкі. Патэнцыйна перспектыўныя басейны пазначаныя чырвоным

У выніку, паводле звестак Адміністрацыі энергетычнай інфармацыі ЗША (EIA), за межамі Штатаў камерцыйная здабыча сланцавай нафты вядзецца на сёння толькі ў Кітаі, Аргенціне і Канадзе, прычым і там аб'ёмы пакуль невялікія. Пры гэтым ацэньваныя сусветныя запасы сланцавых нафты і газу ў Еўропе (уключаючы Расію) і Кітаі амаль утрая большыя, чым у ЗША.

Толькі ў Аргенціне і Алжыры здабыча сланцавай нафты на некалькіх радовішчах ідзе «гэтак жа добра, як у ЗША», кажа Фаўзі Алулу з EIA.

У Польшчы працу працягваюць толькі невялікія кампаніі, падобныя да піянераў амерыканскага сланцавага буму, нягледзячы на расчараванне гігантаў.

Як і ў ЗША, менавіта невялікія кампаніі змогуць дамагчыся поспеху ў сланцавай галіне, лічыць Ойзін Фэнінг, старшыня рады дырэктараў San Leon Energy. Гэтая кампанія ў лютым абвясціла пра першае камерцыйнае адкрыццё ў Польшчы газавага радовішча і збіраецца пачаць прадаваць газ у 2016.

Здабыча сланцавай нафты даражэйшая за звычайную, бо энергарэсурсы ў свідравінах хутка сканчаюцца і трэба ўвесь час бурыць. Акрамя таго, для гідраразрыву пласта трэба шмат вады. Менавіта гэта стрымлівае работы ў пустынных і густанаселеных раёнах Кітая, а ў Еўропе выклікала пярэчанні эколагаў.

Для нашага рэгіёна асабліва важныя вынікі разведкі і бурэння ў Польшчы, бо танны газ у суседняй краіне мог бы цалкам змяніць геапалітычную перспектыву Беларусі.

На жаль, вынікі пакуль несуцяшальныя. EIA ў 2013 знізіла ацэнкі запасаў сланцавага газу ў Польшчы на 20%.

ExxonMobil палічыла працу ў Польшчы бесперспектыўнай у 2012 і пакінула краіну. У студзені 2015 аб рашэнні пакінуць Польшчу абвясціла і Chevron. З буйных нафтавых кампаній там працягвае працу толькі ConocoPhillips.

У Польшчы, як і ў Кітаі, выдаткі на свідравіну могуць дасягаць $25 мільёнаў, а ў ЗША яны, у сярэднім, каля $5 мільёнаў.

Улетку 2014 Chevron пакінула і Літву. Увосень 2014 новы прэзідэнт Румыніі Клаўс Ёханіс заявіў, што ў яго краіне, мабыць, няма сланцавых нафты і газу.

Shell прыпыніла разведку ў Расіі і Украіне пасля нападу расійскіх сілаў на Данбас.

На думку Старк, патэнцыйнымі лідарамі сланцавай галіны, акрамя ЗША, могуць стаць Кітай, Аргенціна і Саудаўская Аравія. Там ёсць моцныя нацыянальныя нафтавыя кампаніі, у якіх ёсць правы на здабычу мясцовых рэсурсаў, падтрымка ўрада і шмат грошай. «Патрэбны гулец з глыбокімі кішэнямі, які можа працаваць там некалькі гадоў», — кажа Старк і дадае, што на гэтую ролю выдатна падыходзяць дзяржкампаніі.

**Сяргей Гезгала, паводле The Wall Street Journal**

# Сябры Юрыя Чыжа купілі «МТБанк»

Новымі ўласнікамі сталі **Аляксей і Іна Алексіны**.

Па велічыні капітала «Мінскі транзітны банк» (скарочана — «МТБанк») трымаецца на мяжы першай дзясяткі банкаў Беларусі — каля $55 мільёнаў. Але сярод прыватных фінансавых структур застаецца адным з найбуйнейшых.

Змена гаспадароў не была нечаканай, ранейшы акцыянер Алег Хусаенаў быў гатовы сысці з банкаўскага бізнэсу: «Калі паступіць унікальная прапанова, мы пагодзімся на продаж».

Фармальным уласнікам «МТБанка» па-ранейшаму застаецца фонд, зарэгістраваны на афшорным Кіпры. Але змяніліся ягоныя заснавальнікі. Цяпер гэта дзве беларускія юрыдычныя асобы: СЗАТ «Энерга-Ойл» і АДА «Белнафтагаз». Кампаніі належаць Аляксею Алексіну (доля 60%) і ягонай жонцы Іне Алексінай (40%). Цікава, што яна грамадзянка Расіі, а муж — грамадзянін Беларусі.

Алексіны шчыльна звязаныя з самым багатым беларускім бізнэсменам Юрыем Чыжом. Сям'я кіравала ягонай базай адпачынку «Сябры», якая знаходзіцца непадалёку ад Мінска, на беразе Заслаўскага вадасховішча.

Пасля таго, як Еўрасаюз наклаў санкцыі на актывы Чыжа, мільянер перапісаў 80% акцый латвійскай кампаніі «Неанафта» менавіта на Алексіных. Па меркаванні экспертаў, гэта дазволіла вывесці нафтавы бізнэс з-пад абмежаванняў Еўрасаюза.

Паліва магло каштаваць Аляксею Алексіну свабоды. У канцы 2013 ён, дырэктар «Трайпл-Энерга» (цяпер — «Энерга-Ойл»), быў узяты пад варту як падазраваны па справе намесніка кантэрна «Белнафтахім» Уладзіміра Волкава. «Кажуць, талковы быў чалавек, за хабары арыштавалі, за размеркаванне нейкіх кантрактаў і гэтак далей, і цэлы шлейф ягоных зmoўшчыкаў з прыватных фірм», — каментаваў сітуацыю з Волкавым Аляксандр Лукашэнка.

Пасля Алексін узяў пад кантроль яшчэ і кампанію «Вяслес-Міт» (раней «Трайпл-Вялес»), якая валодае мясакамбінатам у Маладзечне.

Нарэшце сын Алексіных, Дзмітрый, стаў уласнікам адразу дзвюх элітных кватэр (агульная плошча каля 280 м²) у «доме Чыжа» каля Траецкага прадмесця.

### Прыбытак «МТБанка» за тры кварталы 2014 года — $13,2 мільёна

Летась кампаніі сям'і Алексіных увайшлі ў спіс заснавальнікаў дабрачыннага фонда развіцця тэніса ў Беларусі. Тэніс — вотчына Аляксандра Шакуціна, іншага мільянера, набліжанага да ўлады. Дый Юрый Чыж сцвярджае, што Алексін больш не ягоны партнёр.

«Адна з прычын, па якой выкупляюцца банкаўскія актывы гэтымі людзьмі, — гэта магчымасць фінансавання паставак энерганосьбітаў ва ўмовах санкцый у дачыненні да расейскіх банкаў», — пракаментавала парталу tut.by крыніца ў банкаўскіх колах.

Алексіны паабяцалі павялічыць статутны фонд «МТБанка», а таксама правесці акцыі для кліентаў.

**Ягор Марціновіч**

# Сярэдні заробак зменшыўся да $406

Паводле падлікаў Белстата, заробак беларусаў з улікам інфляцыі вырас на 0,1%. Аднак калі лічыць грошы ў далярах, работнікі пабяднелі. Сярэдні заробак за люты складае 6 129 100 рублёў «чыстымі», гэта $406 у эквіваленце. Крызіс не ўдарыў, бадай, толькі па праграмістах. Іхнія даходы прывязаныя да валюты, таму афіцыйная статыстыка зафіксавала сярэдні заробак у сферы памерам 31,4 мільёна рублёў.

**ЯМ**

# Дзяржава верне грошы 14 тысячам укладчыкаў «Дэльта Банка»

Гарантуецца **100%-ная кампенсацыя** дэпазітаў.

Агенцтва па вяртанні дэпазітаў пачало абслугоўваць кліентаў «Дэльта Банка». Свае грошы ў банку, у якога адклікана ліцэнзія, трымалі 14 тысяч беларусаў. Ім вернуць 100% дэпазіту ў той валюце, якую яны клалі на рахунак. А вось каля 400 юрасобаў, якія трымалі сродкі ў банку, будуць спрабаваць вярнуць свае грошы ў асобным парадку.

Фармальна ўкладчыкам будуць вяртацца і працэнты, налічаныя на дэпазіты да даты адклікання ліцэнзіі «Дэльта Банка». Але спецыфіка дамоваў, якія падпісвалі кліенты гэтага банка, у тым, што прыбытак налічваецца толькі ў апошні дзень дзеяння ўкладу.

Грошы будуць выдаваць у банку «Масква-Мінск», які належыць Нацбанку.

А вось крадыты, узятыя ў «Дэльта Банку», цяпер трэба плаціць на пошце ці праз АРІП у інтэрнэце.

**ЯМ**

## Сціісла

**Румынія адмаўляецца ад расійскага газу**

Цяпер гадавое спажыванне газу ў Румыніі складае 10—11 мільярдаў кубаметраў, з якіх 400 мільёнаў імпартуюцца з Расіі. У 2007 годзе спажыванне дасягала 18 мільярдаў кубаметраў, з якіх імпартавалася траціна з агульнай цаной $4—5 мільярдаў. Адмова ад імпарту расійскага газу стала магчымай дзякуючы зніжэнню спецыфічнага спажывання з боку прамысловасці, а таксама інвестыцыям у энергаэфектыўнасць.

**Больш за траціну беларусаў ашчаджаюць на чорны дзень**

Летась 68% беларускіх сем'яў рабілі зберажэнні. Пры гэтым 36% рэспандэнтаў планавалі выдаткаваць грошы ў бездаходны перыяд, гэта значыцца, адкладалі на чорны дзень. Доля ашчадных розніцца ў залежнасці ад рэгіёна. На Гродзеншчыне адкладаюць 44% сем'яў, а на Магілёўшчыне — толькі 31%.

**Пенсіянерка ў Магілёве купіла $91 тысячу**

Жанчыне давялося сплаціць 117,4 мільёна рублёў падаходнага падатку, пасля таго як у яе запатрабавалі дэкларацыю аб даходах. Назваць крыніцы даходаў пенсіянерка адмовілася, аднак падатак выплаціла.

**Фунты стэрлінгаў будуць пластыкавымі**

У 2016 годзе ў Вялікабрытаніі паступяць у абарот грошы з палімерных матэрыялаў. Плыстыкавыя купюры даражэйшыя за папяровыя ў вырабе, але пры гэтым служаць ад 5,5 да 15 гадоў, бо не падвяргаюцца ўздзеянню вільгаці і бруду. Такія грошы ўжо выкарыстоўваюцца ў больш чым 20 краінах свету, уключаючы Ізраіль, Румынію, Новую Зеландыю.

**ЯМ**

# Эдуард Лобаў: Лепш аб'яднацца з Лукашэнкам супраць Пуціна

**Былы палітвязень марыць пра вайсковую кар'еру, а складана... «складана з цэнамі пакуль разабрацца».**

Эдуард Лобаў цяпер жыве з бацькамі. Працуе кур'ерам. Заробак — ну так, не вельмі. Сярэдняя спецыяльная адукацыя.

Працягвае палітычную дзейнасць. Застаецца сустаршынёй «Маладога Фронту».

### Знайшоў працу кур'ера

«Адвучыўся на зваршчыка ў калоніі — няхай будзе. Пра вайсковую кар'еру прыйдзецца забыць, пакуль судзімасць не будзе пагашаная, ніхто зараз мяне нікуды не возьме, — кажа ён. — Горад трохі змяніўся. З цэнамі пакуль складана разабрацца. Я ж садзіўся, былі адны цэны і заробкі, зараз — іншыя. Таму часам губляюся. Не вельмі зразумела, калі бачыш цэннік: гэта дорага ці не?

На працягу трох сутак пасля звальнення я павінен быў стаць на ўлік у міліцыю. На трэція суткі я прыйшоў, і мне сказалі, каб на наступны дзень я пайшоў у цэнтр занятасці, стаў там на ўлік і адшукаў працу. Я пайшоў, а там мае дакументы не ўзялі, бо я не меў з сабой даведкі аб звальненні і працоўнай кніжкі. А ў наступны раз я не пайшоў — знайшоў сам гэтую працу кур'ера. Кім бы хацеў працаваць, я і не задумваюся. У нас такая краіна, што не вельмі выбіраеш, кім працаваць. Пайду туды, куды возьмуць і дзе будуць плаціць больш».

**Эдуард Лобаў**

сустаршыня «Маладога Фронту». Нарадзіўся ў 1988 у Вільні. Марыў стаць вайскоўцам, пасля школы адслужыў у дэсанце. Па вяртанні з войска Эдуард уключыўся ў працу «Маладога Фронту», неўзабаве стаў кіраўніком Мінскай гарадской арганізацыі. У снежні 2010 быў затрыманы разам са Змітром Дашкевічам, у сакавіку 2011 асуджаны да чатырох гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Прашэнне аб памілаванні пісаць адмовіўся.

Міжнароднай арганізацыяй Amnesty International быў прызнаны вязнем сумлення.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### У выбарах сэнсу не бачу

«Цяпер мы плануем, як правесці Дзень Волі. Возьмем удзел у шэсці. Ісці туды я не баюся. Нават калі закрыюць на нейкія суткі — не страшна.

Тут такая справа, што калі ўсяго баяцца, то нічога не будзе. Ёсць пэўная рызыка, але яна мінімальная, і калі я ўжо пайшоў на гэта, то трэба ісці да канца.

У выбарах я сэнсу асаблівага не бачу. Галасаваць не пайду. Законным шляхам пераадолець Лукашэнку не атрымаецца, а рабіць зараз нешта, як ва Украіне, небяспечна, бо потым можна чакаць тут расійскія войскі. Дый улады не дазволяць. І імавернасць, што ў нас знойдуцца сілы, якія гэта зробяць, таксама вельмі малая. Дый народ можа не падтрымаць, бо бачыць сітуацыю ва Украіне. Нашыя людзі ў асноўным хочуць спакою, ім гэтыя сацыяльныя ўсплёскі зусім не цікавыя. Таму падстаў для Плошчы ў гэтым годзе я не бачу.

Але калі яна ўсё ж адбудзецца, то ўдзельнічаць я, магчыма, і буду. Можа, скончыцца новым тэрмінам? Ну, гэта ж невядома, як павернецца. Я сумняваюся, што ад Плошчы будзе нейкі вынік. Але на 100% я не ўпэўнены. І так, дзеля гэтай імавернасці ў некалькі адсоткаў, я гатовы ісці на рызыку.

Бацькі... Мне 26 гадоў. Я сам адказваю за свае ўчынкі, за свае дзеянні. Я лічу, што тое, што са мной адбываецца, не павінна так ужо моцна адбівацца на жыцці маіх сваякоў.

### Самае жудаснае — Валадарка

Затрымалі нас так. Мы ішлі ўтрох: я, Дашкевіч і яшчэ адзін сябар. Да нас падышлі некалькі чалавек, спыталі, як дайсці да прыпынку. Мы адказалі, што не з гэтага раёна і не ведаем. Яны папрасілі цыгарэту. Наш сябар збіраўся даць тую цыгарэту. Яны пачалі бойку. І літаральна праз некалькі хвілін з'явілася міліцэйская машына, нас усіх туды загрузілі, адвезлі ў РУУС.

Потым на нас напісалі заяву, нібыта мы накінуліся на тых «пацярпелых». Я на іх не бачыў сэнсу пісаць заяву, бо міліцыя сама ўсё бачыла. Потым тых адпусцілі, а нас павезлі ў ІЧУ на Акрэсціна. Падоўжылі тэрмін нашага там утрымання з 3 да 10 сутак. Потым нас адвезлі ў Маскоўскае РУУС для сустрэчы з пракурорам. Ён паведаміў, што пад падпіску нас не адпусцяць. І нас адвезлі ў жодзінскую турму. Там я прабыў каля двух месяцаў. Затым — на Валадарку. Пасля суда, прыкладна праз тыдзень, мяне адвезлі ў калонію.

Я сутыкнуўся з такім упершыню і не ведаў, чаго чакаць: ці тэрмін, ці ўмоўнае. Людзі мне казалі, што артыкул прадугледжвае ад хіміі і да 10 гадоў. Проста чакаў суда.

Калі абвясцілі прысуд, я падумаў, колькі мне гадоў, дадаў чатыры і прыкінуў, калі выйду. Успрыняў спакойна. Тым больш, што пракурор прасіў 5 гадоў для нас. На гэты тэрмін я і арыентаваўся.

**У параўнанні з арміяй у калоніі былі нават больш мякчэйшыя ўмовы**

У калонію ехаць было не страшна. У нейкай ступені я нават хацеў, каб у калонію адвезлі хутчэй. Бо на Валадарцы былі жудасныя ўмовы, перапоўненыя камеры. Спалі пазменна, па 12 гадзін. 12 гадзін можаш ляжаць, затым — мяняецеся. А прысесці там не было дзе: праходы вузкія, месца мала. Шукаеш вугал, каб там сесці і не перашкаджаць нікому.

На шпацыр выводзілі, але там маленькі двор, народу шмат, асабліва не пахадзіш. У выніку і там проста стаіш, толькі што на вуліцы.

### А снегу проста не было

У калоніі было 4 атрады. Жылі ў памяшканні, падобным да вялікай казармы, якая падзеленая на секцыі. Усе разам, па самых розных артыкулах. У кожнай секцыі прыкладна па 20 чалавек. Людзі ведалі, што я «палітычны», ставіліся нармальна.

Працаваў прыкладна адзін атрад, на прамзоне рабілі паддоны, яшчэ нешта з драўніны. Астатнія не рабілі амаль нічога. Прадугледжвалася, што дзве гадзіны на дзень былі занятыя гаспадарчай працай: падмесці, калоць дровы, але і гэта было не штодзень. Але вясной 2014 года ўсіх пачалі адпраўляць на прамзону на дзве гадзіны. Але гэта было больш фармальна. Нам стала вядома, што прыйшоў загад, каб усіх працаўладкавалі, а нашая прамзона проста не была разлічаная на такую колькасць народу. Таму часам нас туды прыводзілі, і мы проста стаялі гэтыя дзве гадзіны і нічога не рабілі, а працавалі тыя, хто і раней.

Рэжым — а 6 пад'ём, у 10 вечара адбой. Займаўся калі чым: калі газеты чытаеш, калі тэлевізар паглядзіш. Да таго ж, у сталовую, адна праверка, другая... Вось так дзень і мінаў. У параўнанні з арміяй, у калоніі былі нават мякчэйшыя ўмовы. У арміі так проста не пасядзіш.

Быў у карцары. 2 разы па 10 сутак. Першы раз я адмовіўся прыбіраць снег. Бо яго проста не было. Я сказаў, што не пайду, бо снегу няма. А другім разам за тое, што паведаміў зняволеным, што міліцыя на бараку.

У турме сачыў за сітуацыяй у краіне і ў свеце з «Нашай Нівы», «Народнай Волі», «Белгазеты».

Сустракаўся са святаром. Ён прыязджаў адмыслова да мяне, больш асць жа праваслаўныя. Нават хадзіў да споведзі. Але не пра ўсё яму казаў: там жа прысутнічаў супрацоўнік адміністрацыі калоніі. Перад ім не вельмі хацелася ўзгадваць нешта сваё.

Па вялікім рахунку, я проста страціў гэтыя чатыры гады. Але ж калі б людзі атрымлівалі ад зняволення карысць, то гэта было б не пакаранне. Але калі б была імавернасць нешта змяніць, я б выйшаў на тую ж Плошчу, нягледзячы на пагрозу трапіць за краты яшчэ раз.

### Пра змены

Рэвалюцыйныя сітуацыі часта ўзнікаюць нечакана. Сёння такое, можа, і немагчыма, але хто ведае, што будзе праз пэўны час? Які будзе сацыяльны ўсплёск у сувязі з нейкімі новымі падзеямі? Гэтага ж ніхто не прадкажа. Проста трэба быць гатовым правільна адрэагаваць на сітуацыю.

А калі працаваць штодзённа, то адзіны шлях нешта змяніць — гэта гутарыць з людзьмі, перацягваць іх на свой бок. Іншага выйсця я не бачу.

Калі ў нас зменіцца ўлада, то Расія можа ўвесці войскі. І шмат народу проста падтрымаюць яе. А калі адбудуцца нейкія палітычныя рознагалоссі паміж кіраўніцтвам нашых краін, то войскі могуць з'явіцца і пры Лукашэнку. Таму трэба праводзіць патрыятычную палітыку ў нацыянальным аспекце. Не канцэнтравацца на супольным савецкім мінулым, а адчуць сябе беларусамі. Зараз з'явіўся пэўны рух у гэты бок, нават на дзяржаўным узроўні: беларускамоўныя білборды, помнік Альгерду нават... Але за год не зробіш таго, што ігнаравалася да гэтага два дзесяцігоддзі. Патрэбен час.

Я падтрымліваю пазіцыю, што лепш аб'яднацца з Лукашэнкам супраць Пуціна. Бо калі мы страцім незалежнасць, то не будзе розніцы, хто кіруе. Пры патрэбе я гатовы абараняць незалежнасць радзімы са зброяй у руках.

Канкурэнцыю Лукашэнку мог бы скласці хіба толькі Статкевіч, калі б ён быў на свабодзе і выбары былі б дэмакратычнымі. Нават на мінулых выбарах, я лічу, ён быў больш канкурэнтаздольным, чым Някляеў ці Саннікаў. Ён чалавек вайсковы, і мог бы эфектыўней кіраваць краінай».

Запісаў Уладзіслаў Швядовіч



**Фотафакт**

**Былы палітвязень Зміцер Дашкевіч, разам з якім быў асуджаны Эдуард Лобаў, вырабляе шафы-купэ з «Пагоняй» і беларускім арнаментам. Майстар прапануе або набіць на шкло адмысловы малюнак, або зрабіць вялікую налепку з гербам.**

# Асуджаны энергетык Эдуард Таўпянец: «Я не ў тым стане, каб размаўляць»

**Былога першага намесніка міністра асудзілі на 5 гадоў за лабізм інтарэсаў расейцаў.**

Справу былога першага намесніка міністра энергетыкі Эдуарда Таўпянца Мінскі гарадскі суд разглядаў у закрытым рэжыме. Мала хто верыў, што справа ўвогуле дойдзе да суда — расследаванне было прыпынена праз хваробу чыноўніка.

На думку абвінавачання, Таўпянец здзейсніў злачынства падчас правядзення таргоў на пастаўку паратурбіннай установкі для рэканструкцыі Бярозаўскай ГРЭС. Конкурсная камісія тады не дапусціла прапанову расійскага «Цеплаэнергасервіс-ЭК» да таргоў на пастаўку абсталявання праз вялікую колькасць тых, хто ўстрымаўся пры галасаванні. Калі пра гэта даведаўся Таўпянец, ён запатрабаваў, каб члены камісіі галасавалі за ці супраць. У выніку кампанія з Екацярынбурга перамагла ў таргах, хоць некаторыя з умоваў расейцаў супярэчылі патрабаванням «Брэстэнерга».

Яшчэ да апісаных падзей у Екацярынбург ездзіла камісія Міністэрства энергетыкі для азнаямлення з вытворчасцю «Цеплаэнергасервіс-ЭК». Карыстаючыся сваім службовым становішчам, Таўпянец загадаў членам дэлегацыі напісаць станоўчае заключэнне па выніках паездкі. Лабіраванне інтарэсаў расійскай кампаніі мела месца таксама пры мадэрнізацыі Мазырскай і Віцебскай ЦЭЦ. Суд палічыў гэтыя абвінавачванні даказанымі.

А вось грамадзянскі пазоў да чыноўніка адхілілі. Пракурор настойваў, што праз дзеянні Таўпянца была сарваная праграма мадэрнізацыі і дзяржава страціла каля $14 мільёнаў. Гэтыя грошы меркавалася спагнаць з энергетыка, аднак пазоў быў адхілены.

У выніку Таўпянца асудзілі на пяць гадоў абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову. Гэта мякчэйшае пакаранне, чым прадугледжана крымінальным кодэксам. Магчыма, гэта звязана з хваробай былога чыноўніка.

Не будзе пакуль што канфіскаваная і ягоная маёмасць. Таўпянцу належаць сталічная трохпакаёўка на вуліцы Маякоўскага, катэдж у Драздах, аўтамабіль «Вольва 945» (зусім стары, яшчэ з савецкімі рэгістрацыйнымі знакамі), паляўнічая зброя, а таксама банкаўскі рахунак з 187 мільёнамі рублёў.

Праўда, не разгледжаным застаецца пазоў да Таўпянца на 68 тысяч еўра залішніх крэдытных выплат. Ён будзе разгледжаны ў грамадзянскім судаводстве.

А пакуль што 75-гадовы асуджаны чыноўнік працягвае жыць у Драздах, побач з дзейнымі міністрамі. «Вы што, не бачыце? Я не ў тым стане, каб размаўляць», — адказаў ён карэспандэнту «НН» з ганка свайго дома. Адмовіўся адказваць хоць на некалькі пытанняў: «Я вас сюды не клікаў».

**ЯМ, ej.by**




**Эдуард Таўпянец**

Нарадзіўся ў 1939 у вёсцы Коўбча Клічаўскага раёна.

Працаваў у газавай сферы (1960—1983). Намеснік старшыні Дзяржкамітэта па газіфікацыі (1983—1992), прэзідэнт Беларускага канцэрна па паліве і газіфікацыі (1992—2002).

У 2002—2013 — першы намеснік міністра энергетыкі, у 2003—2004 — в.а. міністра.

# Расстрэл за забойства сяброўкі

**21-гадовы жыхар Рэчыцы быў нападпітку і пад наркатой.**

У Рэчыцы вынесены прысуд 21-гадоваму мясцоваму жыхару, які 29 жніўня 2013 жорстка забіў знаёмую. Суд прысудзіў яго да расстрэлу. Маладога чалавека таксама падазравалі ў згвалтаванні, але следства не змагло даказаць віну. Расстрэльны прысуд можа быць абскарджаны.

19-гадовая Алеся была на дні нараджэння ў рэстаране ў Рэчыцы. Правесці яе ўначы ўзяўся знаёмы хлопец. Справа маладая: заляцанні, абдымкі. Але дадому дзяўчына так і не дайшла. Яе знайшоў вартаўнік Дома творчай моладзі. Выйшаў ранкам на вуліцу, а ў двары, за будынкам, ляжала дзяўчына. Паўаголеная. Нежывая.

Першым тады затрымалі аднагодка дзяўчыны, які яе і праводзіў. Між іншым, ён у такім веку мае адметную біяграфію: некалькі разоў судзімы. Ён быў нападпітку ў той вечар, а яшчэ і пад наркатой.

**КМ**


БЕЛАПАН

# Чалавек, які перамог Мінгарвыканам, працягвае барацьбу

**Аляксей Васкабовіч 15 гадоў змагаецца з карупцыянерамі.**

Усё пачалося яшчэ ў 2000. Тады трэнер-лёгкаатлет Аляксей Васкабовіч дабудаваў свой дом на вуліцы Уманскай. Але гэта трэба ўзгадніць у адміністрацыі Маскоўскага раёна.

«Мне там прапанавалі: узгоднім, а вы акажыце нам спонсарскую дапамогу. Я сказаў: давайце рахунак, каб усё было афіцыйна. Хабар даваць не хачу. А яны адмовіліся», — узгадвае ён.

Прыбудову так і не зарэгістравалі. Тады Васкабовіч пайшоў па судах. Але нічога так і не дабіўся.

«Былі тры ўказы Лукашэнкі пра тое, каб самавольныя будынкі ўносілі ў спіс дазволеных. Усіх маіх суседзяў унеслі. А мяне — не».

У тым доме жылі 9 чалавек: сам Аляксей Міхайлавіч з жонкай і яго жанатыя сыны з дзецьмі.

У 2006 годзе Васкабовічам паведамілі, што іх будуць высяляць: будуецца новая станцыя метро «Міхалова». І прапанавалі пераехаць у чатырохпакаёўку. Васкабовічы адмовіліся.

«Па-першае, мы хацелі ці прыватны дом, нават меншага памеру, ці ўчастак і грашовую кампенсацыю, — тлумачыць Аляксей Міхайлавіч. — Да таго ж, наш дом увогуле метро не перашкаджаў: паводле дакументаў, яго знішчалі для будаўніцтва часовага пітнога водаправода!»

Потым Васкабовічам прапанавалі дзве кватэры: двух- і трохпакаёўку. Але метраў на ўсіх усё роўна не хапала. Да таго ж, сцвярджае Аляксей Міхайлавіч, кампенсаваць страты за павышаную камфортнасць дома, гаспадарчыя пабудовы ніхто не збіраўся.




**«Мяне пратрымалі да ранку ў „абяз'янніку" і за гэты час знішчылі дом»**

Ізноў суды. Васкабовіч змагаецца за сваё. А ў 2009 годзе, калі суд Маскоўскага раёна прымае рашэнне аб спыненні правоў уласнасці на асабняк і вырашае прымусова прызнаць права ўласнасці Васкабовічаў на сацжыллё, Аляксей Міхайлавіч прыдумвае новую стратэгію барацьбы. Ён абвешвае свой дом плакатамі з заклікамі да Лукашэнкі і цытатамі з Канстытуцыі. Публікацыі пра яго адразу з'яўляюцца у большасці СМІ, а інтэрнаўты запісваюць яго ў лік галоўных змагароў з гарадскімі ўладамі.

У 2012 годзе нарэшце адкрываюць станцыю «Міхалова». Дом Васкабовічаў усё яшчэ стаіць. Насамрэч, ніякаму будаўніцтву ён і не перашкаджаў. Але сям'я ўсё адно павінна з'ехаць: на месцы іх катэджа плануецца будаўніцтва шматкватэрнага жылога комплексу.

У выніку суды Васкабовіч выйграў. Яму далі тры кватэры на тры сям'і: адну чатырохпакаёўку і дзве двушкі. Дом на Уманскай усё ж знеслі ў 2014 годзе. Аднак прэтэнзіі да ўлады ў Аляксея Міхайлавіча засталіся. І шмат.

«Грашовай кампенсацыі зямельных насаджэнняў і сельскагаспадарчых пабудоваў я так і не ўбачыў. Калі прыехалі руйнаваць дом, я сказаў, каб склалі акт на маёмасць, якую знішчаюць. Мне адмовілі і прыгразілі міліцыяй. Я сказаў: выклікайце! — распавядае Васкабовіч. — Міліцыянты прыехалі, я патлумачыў ім, што адбываецца. Яны павезлі мяне ў аддзяленне, нібыта пісаць заяву. А насамрэч закінулі ў «абяз'яннік» і пратрымалі там да ранку. За гэты час дом зламалі».

Пры гэтым не толькі Васкабовіч незадаволены тым, як паводзілі сябе ўлады. Адна з яго суседак прасіла за свой дом, плошчай 76 м², двухпакаёвую кватэру. Яе ўгаварылі выехаць у аднушку і паабяцалі грашовую кампенсацыю. Тых грошай яна чакае і па сённяшні дзень.

Сваю кампенсацыю Васкабовіч цвёрда вырашыў атрымаць. Ён упэўнены, што стаў ахвярай той самай карупцыі, з якой зараз вядзецца паказальная барацьба.

Ён усё адно спадзяецца на справядлівасць і піша ва ўсе ведамствы — ад КДБ да Следчага камітэта. А свае лісты падпісвае так: «Абкрадзены чынушамі А.Васкабовіч».

**Улад Швядовіч**



# Дар’я Домрачава зарабіла 215 тысяч еўра

Спартсменка стала **найлепшай у свеце** па выніках сезона.

Беларуская біятланістка Дар’я Домрачава ўпершыню ў кар’еры выйграла Вялікі хрустальны глобус. Гэтую ўзнагароду спартсменка атрымала за перамогу ў агульным заліку Кубка свету.

Апроч славы і спартыўнага інтарэсу, біятланісты змагаюцца яшчэ і за прызавыя. Перад пачаткам сезона стаўкі трохі падраслі, цяпер пераможца гонкі атрымлівае 13 тысяч еўра. Тыя, хто прыехаў следам, зарабляюць менш. Напрыклад, за дзясятае месца даюць 1 тысячу еўра. Поспехі Дар’і ў асабістых гонках прынеслі ёй сёлета 176 500 еўра.

Грошы можна зарабіць і праз камандныя гонкі. Прызавыя ў эстафетах дзеляцца на чатырох спартсменак. За перамогу можна атрымаць па 5 тысяч еўра на кожную. «Золата» ў эстафетах беларускі ні разу не выйгралі, але за паспяховыя гонкі Домрачава атрымала яшчэ 9250 еўра.

Нарэшце, асобна ацэньваецца перамога ў агульным заліку Кубка свету. Беларуска зарабіла 28 тысяч еўра.

Дадатковы бонус выдаюць за старт у чырвонай ці жоўтай майцы, у якой едзе лідар агульнага заліку. За кожную такую гонку налічваецца па 750 еўра.

Агульны памер прызавых, атрыманых Домрачавай за сезон, перавысіў 215 тысяч еўра.

**Ягор Марціновіч**

Дваццаць гадоў таму Вялікі хрустальны глобус выйгравала беларуска Святлана Парамыгіна.

# Дзе адпачываюць беларусы?

«Крымнаш» змяніў тэндэнцыі **на турыстычным рынку**.

Захоп Крыма расейцамі прымусіў беларусаў змяніць планы на адпачынак. Калі ў 2013 у краіны СНД (перадусім ва Украіну і Расію) арганізавана выехала 213 тысяч чалавек, то летась — толькі 80 тысяч.

Якія краіны змаглі перавабіць нашых турыстаў? Самымі папулярнымі ў беларусаў застаюцца Турцыя (116 тысяч адпачыўнікоў), Балгарыя (103 тысячы) і Егіпет (94 тысячы). Следам ідуць экскурсійныя Польшча і Літва. У рэальнасці доля тых, хто едзе на блізкі Захад, большая, проста многія не звяртаюцца ў турфірмы.

Усё больш раскручваюцца Грэцыя (39 тысяч) і Іспанія (26 тысяч), якія становяцца па кішэні падарожнікам з сярэднім заробкам. За апошнія некалькі гадоў колькасць турыстаў, якія выехалі ў гэтыя краіны, вырасла ў 7—8 разоў.

Што да замежнікаў, якія наведваюць Беларусь, Міністэрству спорту і турызму варта схапіцца за галаву. У год чэмпіянату свету па хакеі і часовай адмены ўязных візаў колькасць арганізаваных турыстаў вырасла на... 600 чалавек. А плынь заходнікаў увогуле зменшылася. Прырост зафіксаваны толькі сярод латвійцаў і чэхаў. Як вынік, арганізаваныя турысты з Латвіі летась былі самымі шматлікімі ў Беларусі (сярод краін за межамі СНД) — 2300 чалавек.

**ЯМ**




Латвійцы былі самымі актыўнымі фанатамі падчас леташняга чэмпіянату.

VERSMI.BY

# На Байкале патануў сын Віктара Януковіча

«Фальксваген» палітыка пайшоў пад ваду, і той **не паспеў выбрацца**.

Трагічнае здарэнне адбылося 22 сакавіка ў Расіі. Віктар Януковіч-малодшы ў якасці кіроўцы і пяцёра пасажыраў на «Фальксвагене Мультывэне» выехалі на возера Байкал, каб зрабіць фотаздымкі. Маразы ўжо прайшлі, і лёд на возеры стаў крохкім. Мясцовыя жыхары не рызыкуюць выязджаць на яго нават на матацыклах. Дый вакол возера расстаўленыя забарончыя інфармацыйныя знакі. Дарэчы, глыбіня Байкала ў месцы трагедыі складае каля 20 метраў.

Трапіўшы коламі ў палонку, машына нахілілася і стала завальвацца ў бок кіроўцы. Усе шасцёра пасажыраў змаглі выбрацца з аўто, а вось Віктар, які быў прышпілены, не паспеў хутка вызваліцца ад рэменя біспекі. Дзверы кіроўцы аказаліся прыціснутымі да лёду. Праз пару гадзін цела сына Януковіча ўсплыло на паверхню, значыцца, ён здолеў яшчэ жывым выбрацца з машыны. Аднак намоклая вопратка і недахоп паветра не дазволілі яму ўратавацца...

Ратавальнікі паведамілі пра смерць грамадзяніна «Віктара Давыдава». Аднак Давыдаў — прозвішча цешчы былога прэзідэнта Украіны. Наймаверна, пад гэтым прозвішчам сын Януковіча і жыў у Расіі пасля ўцёкаў з радзімы.





Знаёмыя сям’і пацвердзілі, што загінуў менавіта Віктар Януковіч-малодшы. «Загінуў так, як і жыў — за стырном аўтамабіля», — пракаментаваў былы паплечнік па «Партыі рэгіёнаў» Нестар Шуфрыч.

Віктар Януковіч-малодшы быў заўзятым гоншчыкам, аматарам экстрэмальнага кіравання. Ён і раней катаўся па Байкале, расказваў сябрам, што возера вабіць яго.

На момант смерці малодшаму сыну экс-прэзідэнта Украіны было 33 гады. У 2006—2014 ён быў дэпутатам Вярхоўнай рады, аднак пасля Майдану разам з бацькам і старэйшым братам уцёк у Расію. У Віктара Януковіча-малодшага засталіся жонка Вольга і пяцігадовы сын Ілля.

**ЯМ**

# Амерыканскі серыял расказаў пра памежны канфлікт Беларусі

Свету пагражае Трэцяя сусветная вайна. Беларусь, Літва і Латвія не могуць падзяліць мяжы. Розныя бакі падтрымліваюць ядзерныя дзяржавы. Апошні шанец чалавецтва — мірныя перамовы кіраўнікоў дзяржаў, што пройдуць у Амерыцы пад наглядам спецпадраздзялення Дэпартамента ўнутранай бяспекі ЗША. Але перамовы прыпыняюцца: аднога з прэзідэнтаў атруцілі.

Так завязваецца сюжэт 18 эпізода першага сезона маладзевага серыяла «Скарпіён». Серыял распавядае (нібы «на аснове рэальных падзей») пра аднайменнае падраздзяленне пад кіраваннем камп’ютарнага генія Уолтэра О’Браяна. У атрад уваходзяць іншыя «дзеці індыга»: «чалавек-калькулятар», псіхолаг сусветнага класа і геніяльны механік, а таксама былая афіцыянтка, якая трымае сувязь геніяў з рэальным светам.

Серыял «Скарпіён» ідзе на тэлеканале CBS з верасня 2014 года, на сёння да завяршэння блізіцца першы сезон. Серыял атрымаў змяшаныя водгукі крытыкаў, але быў працягнуты на другі сезон.

Аўтары «беларуска-балтыйскага» эпізода намагаліся падкрэсліць нацыянальныя асаблівасці і складаныя гістарычныя адносіны краін. Паміж Беларуссю і балтыйскімі краінамі ідзе даўні канфлікт, які пачаўся з інтэрвенцыі Беларусі ў Літву ў 1897 годзе. Беларусь у серыяле славіцца пылавымі бурамі і вялікай колькасцю змей, а таксама традыцыяй прымаць рашэнні пад медавуху.

Прэзідэнта Беларусі ў серыяле завуць Барыс Сáкавіч. У адной са сцэн сцвярджаецца, што ён размаўляе па-беларуску нават з балтыйскімі калегамі.

**Аляксандр Арсёнаў**



Сустрэча кіраўнікоў краін. Справа за сталом — «прэзідэнт Беларусі».

# Да Нью-Ёрка за $15?

Пасажыры ў чаканні авіярэвалюцыі.

Прадстаўнікі ірландскай бюджэтнай авіякампаніі «Раянэйр» пацвердзілі, што ідэя танных трансатлантычных пералётаў будзе рэалізаваная да канца дзесяцігоддзя. Пасажырам будуць прапанаваныя рэйсы з 10—12 еўрапейскіх гарадоў у такую ж колькасць амерыканскіх.

Чакаецца, што асноўны пул квіткоў будзе прадавацца па цане $99—145 у адзін бок. Аднак падчас акцый і распродажаў некаторыя шчаслівыя змогуць пераадолець акіян і за фантастычныя $15. Цяпер асноўная маса еўрапейскіх і амерыканскіх перавозчыкаў прапануе аналагічныя пералёты за $400—700.

У планах ірландскай кампаніі адмовіцца ад сваёй традыцыйнай аднакласавай сістэмы: для трансатлантычных пералётаў будуць даступныя квіткі ў бізнэс-класе.

На дадзены момант невядома, на якіх самалётах будуць ажыццяўляцца пералёты. Гаворка ідзе пра магчымасць набыцця новых эканомных шырокафюзеляжных «Боінга 787 Дрымлайнер» альбо «Аэробуса 350».

Тым часам бюджэтныя пералёты з Еўропы ў Амерыку гатовыя прапаноўваць і іншыя авіякампаніі. Напрыклад, нямецкая «Люфтганза» ў кастрычніку будзе прадаваць танныя квіткі з нямецкага Кёльна да папулярных турыстычных курортаў на Кубе і ў Дамініканскай Рэспубліцы. Цэны ў адзін бок будуць пачынацца са $100. А ісландскі WOW ужо лятае з Рэйк'явіка ў Бостан за $99.

**Іван Шыла**

**Раянэйр**

Ryanair — найбуйнейшая ў свеце бюджэтная авіякампанія. Яна прапануе танныя квіткі і мінімальную колькасць бясплатных сэрвісаў. У мінулым годзе было перавезена больш за 80 мільёнаў пасажыраў (для параўнання, «Белавія» абслужыла крыху менш за 2 мільёны чалавек).

## У аўтобусах «Мінаблаўтатранса» з'явіцца бясплатны інтэрнэт

Адна з найбуйнейшых транспартных арганізацый Беларусі, «Мінаблаўтатранс», у маі прапануе пасажырам міжнародных аўтобусаў бясплатны інтэрнэт.

Акрамя таго, скарыстацца бясплатным wi-fi можна будзе на аўтавакзалах Мінскай вобласці.

На міжнародных маршрутах пасажыры ўжо карыстаюцца кліматкантролем, аўдыё- і відэасістэмай, кухняй і прыбіральняй.

**АА**

**Фотафакт**



**Працягваецца рэканструкцыя стадыёна «Дынама» ў Мінску. Пасля яе завяршэння ў цэнтры сталіцы паўстане лёгкаатлетычная арэна.**



## Літоўцы распрацавалі туфлі, што мяняюць колер і ўзор

Літоўская кампанія Ishuu Technologies распачала збор сродкаў на «разумныя туфлі» Volvorii Timeless. У абутак устаўленыя дысплэі (электронная папера), якія дазваляюць не толькі змяняць колер, але і адлюстроўваць узор.

Малюнак устаўкі можна будзе змяніць з дапамогай свайго мабільніка. Мяркуючы па відэа, апублікаваным распрацоўшчыкамі, туфлі маюць чорна-белыя экраны, але тэарэтычна могуць з'явіцца і «каляровыя» мадэлі.



Для стварэння першай партыі такіх туфляў літоўцам трэба сабраць $50 тысяч (на момант публікацыі сабрана $19 тысяч).

Самыя першыя замовы туфляў абыходзіліся ў $149 і $199, цяпер мінімальная цана складае $249.

Пасля завяршэння збору сродкаў кампанія плануе прапанаваць кліентам чорную і белую мадэлі, зробленыя са скуры і гумы. На верхняй частцы туфлі будуць мець адмысловыя мацаванні для аксесуараў. Магчымыя памеры — ад 36 да 40. Выпуск у продаж запланаваны на снежань 2015 года.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Паркоўка на Прывакзальнай плошчы стала платнай

За магчымасць пакінуць аўто на Прывакзальнай плошчы Мінска цяпер давядзецца плаціць. 20 хвілін паркоўкі каштуюць 4 тысячы рублёў, кожная гадзіна — па 10 тысяч рублёў. Грошы збіраюць работнікі «Парковак сталіцы».

Год таму ішла гаворка пра поўнамаштабную рэканструкцыю Прывакзальнай плошчы і аўтаматызацыю паркоўкі, аднак ідэя так і не была рэалізаваная.

На рагу Прывакзальнай плошчы знаходзіцца шматпавярховы аўтаматызаваны паркінг гандлёва-забаўляльнага цэнтра «Галілеа». Пакінуць машыну каштуе 10 тысяч за кожныя тры гадзіны і па 30 тысяч за кожныя наступныя суткі.

Тарыфы «Галілеа» больш выгадныя, аднак наземная стаянка дае магчымасць бясплатна пакідаць аўто. Паркоўшчыкі працуюць ад 6 да 22 гадзін, у астатні час на стаянку заезд і выезд бясплатны.

**ЯМ**

## Генетыкі змогуць уваскрасіць мамантаў

Генетыкі пад кіраўніцтвам Джоржа Чорча, прафесара Гарвардскага ўніверсітэта, ЗША, здолелі інтэграваць гены вымерлых мамантаў у ДНК сучасных сланоў.

На сёння навукоўцы маюць здаровыя клеткі слана з генамі маманта, што адказваюць за ключавыя прыкметы дагістарычных жывёл: гемаглабін, поўсць, вялікія вушы, тлушчы.

Прафесар не падтрымлівае ідэю кланавання мамантаў з захаваных парэштак. Чорч выступае за паэтапнае аднаўленне генома старажытных жывёл па фрагментах ДНК, знойдзеных у вечнай мерзлаце. З цягам часу ДНК будзе больш і больш набліжацца да сапраўднага маманта.

Кіраўнік праекта верыць, што маманты змогуць выканаць важную ролю ў стабілізацыі экасістэмы сібірскай тундры.

**АА**

**Кіно**

## У пошуках сябе

**Інсургент**
Фантастыка, трылер, драма
**Рэжысёр:** Роберт Швентке
**У ролях:** Шэйлін Вудлі, Тэа Джэймс, Кейт Уінслет, Джай Кортні, Энсел Элгат, Майл Тэлер, Зоі Кравіц, Актавія Спенсер, Наомі Уотс.
ЗША, 119 хв.
**Адзнака:** 7

Джанін, кіраўніца фракцыі Эрудытаў, аб'яўляе дывергентаў (людзей, якія па сваіх здольнасцях пасуюць усім фракцыям) небяспечнымі злачынцамі. Арганізаваўшы паляванне на іх, яна шукае наймацнейшага, каб адкрыць артэфакт, які быў пакінуты заснавальнікамі калоніі. Інфармацыя, заключаная ў артэфакце, можа праліць святло не толькі на мінулае горада, але і растлумачыць, адкуль узяліся дывергенты і як пабудаваць светлую будучыню.

Экранізацыю другой часткі трылогіі «Дывергент» Веранікі Рот даверылі Роберту Швентке, рэжысёру «Рэда» (2010) і «Падмані мяне» (серыял, 2009—2011). Услед за ім праект амаль цалкам змяніў каманду, адпаведна змяніўся і падыход да першакрыніцы: сцэнар значна адышоў ад кнігі ў бок спрашчэння сюжэтных ліній. Адначасова дадалося відовішчнасці за кошт выкарыстання незвычайных прыладаў і новых трукаў.

Стужка працягвае аповед пра Трыс Прайр — дывергента, які не ўпісваецца ў сістэму пяці фракцый, створаных для мірнага суіснавання людзей 200 гадоў таму. За фантастычным сюжэтам хаваецца падлеткавая драма пра пошукі сябе ў гэтым свеце і ўсведамленне сваёй адрознасці ад іншых. «У жыцці ёсць шмат магчымасцяў праявіць адвагу. Адна з самых выбітных — быць сабой. Гэта сапраўды патрабуе ўнутранай сілы, асабліва калі вакол сотні людзей, і кожны ведае, якім ты павінен быць», — мяркуе Шэйлін Вудлі, выканаўца галоўнай ролі.

Маладая актрыса ўжо ў свае 23 мае некалькі ўзнагарод і намінацый.




За стужку «Захаплялыны час» (2013) яна атрымала спецыяльны прыз на незалежным кінафестывалі «Сандэс-2013». А сёлета яна знялася ў экранізацыі аднайменнай кнігі Джона Грына «Вінаватыя зоркі» пра дзяўчыну, хворую на рак. На здымках «Інсургента» Шэйлін працавала з такімі зоркамі кіно, як Наомі Уотс і Кейт Уінслет.

**Настасся Уласава**

# «Нам патрэбны помнік Быкаву, а не карове»

Міністру культуры
Рэспублікі Беларусь
Сябра Саюза мастакоў
Генадзя Станіслававіча Лойкі
Зварот

11 сакавіка 2015 на пасяджэнні секцыі скульптуры Саюза мастакоў Беларусі нам паведамілі, што Міністэрства культуры Беларусі арганізоўвае конкурс на стварэнне помніка карове.

Асабіста мне ў душу закралася такое падазрэнне, нібыта з намі, сябрамі Саюза мастакоў Беларусі, абыходзяцца як з быдлам.

З аднаго боку, нічога тут дзіўнага, звычайны конкурс. Што нам, скульптарам, хіба цяжка зляпіць карову? Мы ўсё можам. Кошты на майстэрні такія, што нашы скульптары гатовыя на ўсё: Леніна, Сталіна, чорта лысага — абы грошы плацілі. Адно як падаць руку такому калегу, які ляпіў чорта лысага? Ці, можа, гэткае пытанне не



павінна турбаваць сяброў творчага Саюза мастакоў Беларусі?

А з другога боку, чаму мы, беларускія мастакі, не можам паўдзельнічаць у годных дзяржаўных конкурсах на стварэнне, напрыклад, манументаў Герою Нацыі Кастусю Каліноўскаму? Бо іх няма. Бо Савет міністраў Беларусі да гэтай пары не назваў цэнтральныя плошчы, вуліцы, скверы, музеі, тэатры ў нашых гарадах імёнамі Кастуся Каліноўскага, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Ларысы Геніюш. Бо Міністэрства адукацыі выдала новыя падручнікі, паводле якіх Каліноўскі лічыцца бандытам, што выступіў супраць улады (чужынскае), а героем называюць ягонага вешальніка (чужынца). Якія будуць вынікі такога «патрыятычнага» выхавання? Як грамадзяніну, гаспадару краіны, абараняць Радзіму? На каго яму раўняцца?

Уявім для прыкладу даволі рэальную на сёння сітуацыю. Сярэднестатыстычны грамадзянін бачыць, што па вуліцы ягонага горада, барані Божа, едуць танкі са сцёртымі нумарамі, крочаць «зялёныя чалавечкі» без пагонаў, без шэўронаў. Як рэагаваць яму на гэтую відавочную акупацыю? Напэўна, так, як і належыць патрыёту — бязлітасна нішчыць узброеных чужынцаў! Так рабілі нашы патрыёты: Кастусь Каліноўскі, Тадэвуш Касцюшка, Эмілія Плятэр... Але ці ведае гэтыя імёны наш грамадзянін? Ці бачыць іхнія помнікі на плошчах сваіх гарадоў і мястэчак? Не! Нашыя плошчы занятыя помнікамі толькі аднаму чалавеку — чужынцу (Леніну). Ці стане патрыёт абараняць Радзіму ад прышлых чужынцаў, калі Радзіма ўжо занятая помнікамі чужынцу?

Функцыя міністэрства — выхоўваць сваю нацыю, гуртаваць сваіх грамадзянаў вакол нацыянальных каштоўнасцяў.

Нам кажуць, што Міністэрства культуры не мае грошай. А ў дадзеным выпадку грошы назбіралі даяркі менавіта для помніка сваёй карове.

Я не маю прэтэнзіі да даярак. Не маю нічога супраць каровы. Нашы скульптары выконваюць помнікі і бабру, і агурку. І гэта не дзіва, такая практыка — звычайная з'ява ў свеце. Але тут трэба ўвесці вельмі істотную рэмарку — у свеце на ўсіх кантынентах (апроч Антарктыды) існуе 1384 (!) помнікі Тарасу Шаўчэнку. Пасля гэтага свет можа дазволіць сабе помнікі і бульбе, і жабе. А давайце падлічым, колькі манументаў Генію Нацыі Янку Купалу? Пару штук у Беларусі і пару штук за мяжою...

Я прашу Міністэрства культуры, калі ласка:

1) спыніце гэты ганебны конкурс на стварэнне помніка карове;

2) пайдзіце ў народ, да даярак, растлумачце ім, што ў нас ёсць Гонар Нацыі Васіль Быкаў, угаварыце, пераканайце іх перадаць свае сабраныя грошы на ўвекавечанне Чалавека.

Мы — Народ, а не быдла! Нам патрэбны помнік Быкаву, а не карове!

**З павагай,**
**сябар Саюза мастакоў Беларусі**
**Генадзь Лойка**

## Валюта пясец

«Думаем, прыйшоў час пагаварыць аб магчымасці фарміравання ў перспектыве валютнага саюза», — сказаў Пуцін Лукашэнку і Назарбаю ў Астане.

Дэвальвацыя за дэвальвацыяй, і ім яшчэ саюзную валюту падавай. Вы спачатку размецеся з людзьмі за скрадзеныя ўклады з таго саюза, калі народ з торбай пусцілі. А то ўжо новы ствараеце...

О, як гэта сімвалічна, што гэта прагучала ў дзень сонечнага зацьмення. Зацьменне розуму! Хай назавуць сваю валюту «саюзны пясец»...

**Ігар Белы**

## «Города и веси России — Браслав»

Шукаючы ў інтэрнэце інфармацыю па тэме «закапанскі стыль», я нечакана трапіў на сайт «Города и веси России — Браслав». Браслаў тут названы горадам Расіі! І аўтары артыкула — не далёкія ад праўды. На ўсіх здымках Браслава, што змешчаныя ў публікацыі, банеры, плакаты, шыльды, стэлы — выключна на рускай мове. Аўтары прыехалі ў Браслаў і не падазравалі, што тут — не Расія, а іншая краіна. Бо ўсё — па-руску! «Где берёза — там и родина!» Ці вінаватыя аўтары? Не! Яны ўбачылі тое, што хацелі, а мы дапамаглі!

Да Дня беларускага пісьменства і друку, які адбыўся ў 2012-м годзе ў Глыбокім, тут горад змяніўся. Да «зачысткі» начальства, на кпіны




грамадства скардзілася, што на беларускамоўныя шыльды не хапае грошай. Таму, маўляў, выбачайце, цярпіце рускія шыльды. Вось прыйдзе Дзень — і шыльды зменім! Слова, між іншым, стрымалі.

Дайце Браславу грошай! Інакш ён сплыве ў Швецыю, пойдзе ў Латвію, аддасца «рускаму міру»! А там жа — Нацыянальны парк, лецішчы высокапастаўленых чыноўнікаў і, кажуць, яшчэ самі ведаеце — Каго! Будзеце, спадарства, на свае лецішчы ездзіць па візах.

Шаноўныя, вы нават і не падазраяце, наколькі Браслаў ёсць самы прадажны з самых прадажных гарадоў Беларусі! Паводле спадара Катлерчука, аўтара кнігі аб шведска-беларускіх дачыненнях, жыхары Браслаўскага павета ў свой час прысягнулі шведскаму каралю. Нават правялі «плебісцыт». Сёння, гіпатэтычна, над Браславам, замест хрысціянскіх крыжоў над храмамі, маглі быць і пеўні, як цяпер у Рызе. Пакуль дачуліся ў Вільні і Варшаве — год прайшоў! Год — у Шведскім каралеўстве! Прыехала начальства, мо і не без мардабою, Браслаў вярнуўся ў святую Рэч Паспалітую. Надоўга! Не! На пару стагоддзяў!

У пасляваенны перыяд Латвійская ССР папрасіла перадаць горад Браслаў Латвіі як зону адпачынку для буйнога прамысловага цэнтра Даўгаўпілс. Насельніцтва, кажуць, было адзінадушна за, бо ў Латвіі было больш тавараў у крамах. Аб гэтым у свой час мне паведаміў глыбоцкі энцыклапедыст Язэп Бунто. У самы апошні момант кіраўніцтва БССР перадумала аддаваць Браслаў Латвіі. Пытанне закрылі. Не «пракаціла» латышам.

А як будзе з «рускім мірам»? Браслаўская народная рэспубліка?

**Уладзімір Скрабатун, Глыбокае**

## Над Беларуссю выпрабоўвалі новую зброю?

Вось які ліст «Наша Ніва» атрымала ад чытача з Віцебскай вобласці ў аўторак увечары: «Сёння, прыкладна а палове дзявятай вечара, мы з жонкай, знаходзячыся недалёка ад горада Сянно, бачылі незвычайную з'яву на небе. З паўночнага ўсходу, захапляючы ўсё большую тэрыторыю неба, паўзлі падсветленыя знутры чырвоныя языкі. Яны захапілі амаль усю паўночную частку неба, а потым, хвілін праз 15, зніклі. Што гэта было? Тэхнагенная катастрофа? Выпрабаванні новай зброі? Я ўпэўнены, не мы адны бачылі гэта… Сяргей».

Дарагі Сяргею, гэта было наймацнейшае за апошнія 12 гадоў паўночнае ззянне. Астраном Віктар Малышчыц зняў, як яно выглядала з-пад Мінска (глядзіце старонку 16).

## Пісьменнік Юрый Станкевіч выходзіць з ПЭН-цэнтра

Пра гэта ён напісаў у лісце, які атрымала «Наша Ніва».

«Я не з крыўдлівых людзей, даводзілася знаходзіцца ў розных сітуацыях, ведаю збольшага кошт жыцця, імкнуся пазбягаць усялякіх гучных, пафасных заяў. Таму спакойна патлумачу сваё рашэнне выйсці з сябраў ПЭН-цэнтра, — піша Станкевіч. — Я прыняты туды у канцы 90-х. Білет падпісаны Васілём Быкавым, які быў старшынёй. ПЭНам кіравалі Карлас Шэрман, Адам Мальдзіс. Пры іх арганізацыя імкнулася прытрымлівацца пісьменніцкага праваабарончага кірунку і нацыянальнай ідэі.

А потым прыйшлі «эпігоны», набылі сяброўства выпадковыя і не-



выпадковыя людзі, і наступіла непазбежнае. Тое, што адбылося раней з «Крыніцай», Саюзам пісьменнікаў, шэрагам выданняў. Каркас ПЭНа быццам застаўся, а змест змяніўся», — піша Станкевіч.

«Думка аб выхадзе спела даўно. Днямі кропля перапоўніла шклянку. Гаворка пра «дыскрымінацыю рускамоўных літаратараў». Хачу спытаць: калі цяпер у суседняй краіне льецца кроў і гінуць, у тым ліку за сваю родную мову, тысячы змагароў — навошта вы балбочаце пра нейкую «дыскрымінацыю»?

«Двое-трое чалавек вызначылі кланчык, займаючы самарэкламай, літвандроўкамі па замежжах, цынічна ігнаруючы інтарэсы шараговых сяброў ПЭНа», — крыўдуе Станкевіч.

«Але няхай. Усё гэта часам нават смешна. Не смешна толькі, калі праявілася сутнасць з агучваннем міфічнай «дыскрымінацыі рускамоўных пісьменнікаў». Гэта ў цяперашніх варунках горш і небяспечней за звычайную дурноту.

Са свайго сціплага погляду лічу, што заставацца далей сябрам ПЭН-цэнтра немэтазгодна», — падсумоўвае ён.

Юрый Станкевіч набыў вядомасць сваёй аповесцю «Любіць ноч — права пацукоў». Па прафесіі ён доктар, жыве ў Барысаве.

**Ад Рэдакцыі.** Кіраўніцтва ПЭН-цэнтра, дарэчы, ужо прынесла прабачэнні за «недарэчнасці ў адным з прэс-рэлізаў» арганізацыі. Супрацоўнік напісаў, а кіраўнікі пісьменніцкай арганізацыі не вычыталі. Старшыня ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч абяцае, што больш такога не паўторыцца і ён будзе вычытваць усе дакументы асабіста.

### Прыватныя абвесткі

**Віншуем**

**Мы з палёгкаю і радасцю віншуем** цудоўных Танечку Шапуцька і Глеба Лабадзенку з нараджэннем другога сына! Глеб і Танечка, вашыя дзеткі — самае галоўнае! Сябры.

**Віншуем Веру Перагудаву і Усевалада Сцебураку** з заручынамі. Сябры.

**Прадам**

**Прадам «Беларускую энцыклапедыю».** Тамы з 9-га па 18-ы. Кошт — сімвалічны. (029) 103-83-35 ці biazmikaleh@gmail.com

**Што б гэта значыла?**




### Ад рэдактара

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.
У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.
Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

# «Праўда, што мітрапаліт Павел абяцаў Вас пасадзіць?» — «Так»

Заведзена крымінальная справа на былога дырэктара выдавецтва Беларускага экзархата Уладзіміра Грозава. Фігурант — постаць асаблівая. Ён прыйшоў у царкву з сілавых структур і 16 гадоў кіраваў выдавецтвам экзархата.

«Былы 55-гадовы кіраўнік, злоўжываючы службовымі паўнамоцтвамі, арганізаваў крадзеж грашовых сродкаў у падначаленага выдавецтва. Ён наўмысна аддаваў незаконныя распараджэнні падначаленым работнікам аб штомесячным знішчэнні дакументаў пярвічнага ўліку таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў і грашовых сродкаў, а таксама незаконна забіраў з касы прадпрыемства наяўныя грашовыя сродкі. Далей грошы фігурант выкарыстаў для набыцця за мяжой грузавога і легкавога аўтатранспарту», — паведамілі ў ГУУС Мінгарвыканкама.

**Адзначаны Лукашэнкам**

Уладзімір Грозаў нарадзіўся ў 1960 у Лагойскім раёне. Скончыў геаграфічны і юрыдычны факультэты БДУ. Служыў у сілавых структурах. У 1998—2014 — дырэктар выдавецтва Беларускага экзархата.

Пры Грозаве калектыў выдавецтва Беларускага экзархата быў адзначаны прэміяй «За духоўнае адраджэнне» за выданне Слуцкага Евангелля.


SOBOR.BY

Размова ідзе пра 14 адзінак тэхнікі на агульную суму большую за $150 тысяч. Па версіі следства, аўтамабілі афармляліся на Грозава або яго сваякоў.

Паўнамоцтвы Уладзіміра Грозава ў выдавецтве былі прыпынены яшчэ ў кастрычніку 2014 года. Мітрапаліт Павел публічна паведаміў, што Сінадальная рэвізійная камісія Беларускага экзархата «прызнала дзейнасць Грозава нездавальняючай». Грозава не вызвалілі з падзякай, а ганебна звольнілі.

Расследаванне крымінальнай справы, заведзенай Генеральнай пракуратурай, працягваецца.

«Наша Ніва» звязалася з Уладзімірам Грозавым.

«У сувязі з тым, што ў мяне была забраная справа, у якую я цягам 16 гадоў укладаў усе свае сілы, сродкі і душу, працуючы на карысць праваслаўнай асветы, здароўе маё рэзка пагоршала. Цяпер займаюся яго аднаўленнем», — паведаміў «Нашай Ніве» ён.

**«НН»: Вы не прызнаеце сваёй віны?**

**УГ:** Катэгарычна не.

**«НН»: Каму і для чаго трэба Вас абгаворваць?**

**УГ:** На жаль, ва ўсіх публічных асоб ёсць нядобразычліўцы і зайздроснікі.

**«НН»: Міліцыя назвала суму ў $150 тысячі 14 машын, якія на гэтыя грошы былі куплены за мяжой. Адкуль узніклі такая сума і гэтая тэхніка?**

**УГ:** Сумы крадзяжу, агучаныя ў СМІ, з'яўляюцца вынікам беспадстаўных абвінавачванняў з боку чыноўнікаў епархіі БПЦ, якія пераследуюць свае карыслівыя мэты.

**«НН»: Як даўно вядзецца расследаванне?**

**УГ:** Прыкладна з кастрычніка праводзіцца праверка па ініцыятыве БПЦ.

**«НН»: Праўда, што мітрапаліт Павел публічна паабяцаў Вас пасадзіць?**

**УГ:** Так. Але я шчыра спадзяюся, што гэта не асабістая ініцыятыва першай асобы БПЦ, а вынік нахабных паклёпаў нядобразычліўцаў епархіі ды іншых асоб, якія намагаюцца атрымаць татальны кантроль над дзейнасцю па духоўнай асвеце, якая рэалізуецца мной пры дапамозе грамадскіх арганізацый.

## Гвалтаўнік напаў на 10-гадовую дзяўчынку праз дзве гадзіны пасля вызвалення

У Ваўкавыску супрацоўнікі ДАІ затрымалі падазраванага ў здзяйсненні гвалтоўных дзеянняў сэксуальнага характару ў дачыненні да 10-гадовай дзяўчынкі.

Нарад ДАІ звярнуў увагу на мужчыну, які быў падобны па прыкметах да злачынцы, абвешчанага ў вышук, і затрымаў яго. Гэта сапраўды аказаўся падазраваны ў здзяйсненні гвалту. 55-гадовы гродзенец на волі пабыў толькі некалькі гадзін. Яму пагражае пазбаўленне волі на тэрмін ад 8 да 15 гадоў.

БелТА

**Сціслa**

**Віцьбіча, які забіў шчанюка сваёй дачкі, асудзілі на 5 сутак арышту**



У Першамайскім судзе Віцебска 20 сакавіка скончыўся незвычайны працэс. 25-гадовага мужчыну арыштавалі на пяць сутак.

Трагедыя здарылася незадоўга да Новага года. Увечары ў сям'і адбылася сварка. А ноччу малады бацька, пакуль жонка з дзіцем знаходзіліся ў суседнім пакоі, узяўся за выхаванне шчанюка Люсі (**на фота**).

Кроў на падлозе, халадзільніку, газавай пліце, шпалерах і захутаны ў анучу труп жывёлы — такую карціну раніцай убачыла гаспадыня. А ноччу яна, як сцвярджае, проста баялася выйсці на кухню — калі муж нецвярозы, звязвацца з ім небяспечна. Гаспадар дэталяў не памятае, бо быў «выпіўшы».

**У Печах вайсковец зрабіў сабе смерць**

Вайсковец тэрміновай службы 72 аб'яднанага навучальнага цэнтра (вайсковы гарадок Печы) скончыў жыццё самагубствам, паведамілі ў прэс-службе Міністэрства абароны. Інцыдэнт адбыўся 21 сакавіка. У сувязі са здарэннем Міністэрства абароны выказвае спачуванне родным і блізкім вайскоўца.

КМ

**Вышук**





**Кватэрнае пытанне**

Жыхарак Гродна, Святлану Саваневіч і Марыну Трaскоўскую, падазраюць у махлярстве. Мяркуецца, што адна шукала людзей, якія маюць патрэбу ў жытле, брала ў іх грошы на пакупку кватэры альбо прыватызацыю, другая называлася работніцай мэрыі і гарантавала дапамогу. Калі вы пацярпелі ад жанчына на фота, звяртайцеся на (0152) 72-42-03.

**Зварот у Рэдакцыю**

# Смерць сына Нябойшы

«Майго 28-гадовага сына Драгуціна знайшлі мёртвым у сваёй кватэры ў Жлобіне 22 снежня 2014 года, — звярнуўся ў Рэдакцыю «Нашай Нівы» Нябойша Дзеніч з Сербіі. — Ён працаваў у італьянскай кампаніі праграмістам. Спачатку яго смерць аб'явілі самагубствам. Але пасля знайшліся запісы, у якіх Драгуцін узгадвае, што нехта хоча яго забіць і ён думае пакінуць працу. У нас з'явілася падазрэнне, што, магчыма, гэта не было самагубства. Але беларускія і сербскія СМІ маўчаць. Мой сын быў сумленным чалавекам з моцным характарам. Ён быў рэлігійным, вёў здаровы лад жыцця. Яго маці і я шмат працавалі, каб даць яму адукацыю. І ён быў удзячным дзіцем».

### «У замок знутры быў устаўлены ключ»

Драгуцін прыехаў у Беларусь у лістападзе 2014 — гэта была камандзіроўка на Беларускі металургічны завод. Працаваў на італьянскую кампанію «Danieli Automation». Серб прыехаў у якасці шэф-мантажніка для нагляду за мантажом, пусканаладачнымі работамі на будаўніцтве драбнасортнадрацянога пракатнага стана. Спачатку некалькі дзён жыў у гатэлі, а затым пераехаў у арандаваную кватэру.

«У апошні раз жывым калегі па працы бачылі яго ў суботу вечарам, 20 снежня, на шашлыках. У нядзелю каля 23 гадзін мужчына праз інтэрнэт камунікаваў са сваім бацькам. Як патлумачыў пазней бацька памерлага, сын быў нечым усхваляваны. 22 снежня 2014 шэфмантажнік не з'явіўся на працы, на тэлефонныя званкі не адказваў. Калегі звярнуліся да гаспадара кватэры, у якой пражываў серб, з просьбай адамкнуць дзверы. Аднак гэта не ўдалося, бо ў замок знутры быў устаўлены ключ», — расказала «Нашай Ніве» прадстаўніца ўпраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Давялося выклікаць ратавальнікаў. Яны выбілі на кухні акно і залезлі ў кватэру. У зале на люстры, на тканым рэмені, вісела цела, а на люстры матляўся яшчэ і абарваны USB-кабель. На падлозе валяўся рэмень са зламанай спражкай. З кватэры следчыя забралі сцізорык са слядамі крыві.

### Раны на целе

Слядоў узлому ў кватэры не знайшлі, крадзяжу таксама. Эксперты прычыну смерці вызначылі — механічная асфіксія пры павешанні. Але акрамя слядоў ад рэменя на шыі, на целе знайшлі рэзаныя раны і драпіны на шыі, жываце, руках, якія, паводле заключэння, не знаходзіліся ў прычыннай сувязі са смерцю. На думку экспертаў, дадзеныя раны ён мог нанесці сабе сам.



«Падчас праверкі следчымі пры ўзаемадзеянні з доктарампсіхіятрам вывучаліся тэксты, якія грамадзянін Сербіі накіроўваў сваім блізкім. У сваіх запісах мужчына разважаў пра яго пераслед з боку працадаўцаў, якія маглі, па яго меркаванні, быць звязаныя з масонамі і мафіяй», — расказала Крываногава.

На працы Драгуцін быў замкнёны, з калегамі кантактаваў выключна па працоўных пытаннях.

«Следчыя прыйшлі да высновы, што грамадзянін Сербіі скончыў жыццё самагубствам, зрабіўшы да гэтага некалькі незавершаных спроб скончыць з сабой шляхам нанясення сабе парэзаў і праз павешанне».

### Заключэнне сербскага патолагаанатама

Заключэнне беларускага патолагаанатама бацьку Драгуціна не задаволіла. І ён арганізаваў паўторнае ўскрыццё цела ў Сербіі. Яго зрабілі ў Бялградзе пры Вайскова-медыцынскай акадэміі. «Палкоўнік Івіца Міласаўлевіч сказаў нам, што першае заключэнне з'яўляецца не поўным і недастатковым. І ён мяркуе, што гэта, хутчэй за ўсё, было забойства», — расказвае бацька.

Нябойша прыслаў заключэнне сербскага спецыяліста. Той звяртае ўвагу на разрэзы на абодвух перадплеччах, на жываце і на абодвух баках шыі, пра дзве дзіркі ад уколу на левым плячы.

«Наш сын быў звычайным праграмістам», — кажа Нябойша. Сям'і не хочацца верыць, што ён зрабіў сабе смерць.

У той жа час беларускія следчыя не знайшлі падстаў думаць, што магло быць забойства. Супаставіўшы факты, яны прыйшлі да высновы, што трагедыя была выкліканая псіхічным разладам у душы маладога чалавека.

Сяргей Макарэвіч

# Як Сцяпанаўна вышыванкі на Камароўцы прадае







Па дарозе ад ГЦ «Імпульс» да Дома мэблі між прадаўцамі касметыкі, вадзяных пісталетаў і самаробных шпакоўняў на цыратавай падсцілцы раскладзеныя вышыванкі. Раз на два тыдні Сцяпанаўна прыязджае з Брэсцкага раёна ў Мінск прадаваць сваю вышыўку.

«Я ўсё жыццё займаюся вышыўкай. Як пайшла ў першы клас, прынесла анучку і вышываю, — кажа яна. — Настаўніца злавалася, нават бацькоў выклікала. На мяне дачка крычыць: «Мама, адпачні!», а я толькі так і ўмею адпачываць».

Лепш за ўсё ў яе разыходзяцца ручнікі. «Людзі вельмі цікавяцца. За гэтыя выхадныя я зарабіла тры мільёны», — сцвярджае Сцяпанаўна.

Арнаменты на вырабах Сцяпанаўны, падобна, не ёсць поўнай рэканструкцыяй узораў з пэўных рэгіёнаў. Так вышыўка на кашулях і ручніках падобная да «фэнтэзі» па матывах паўднёвых рэгіёнаў Беларусі, а таксама частак Польшчы, Расіі і Украіны.

Жаночая вышыванка ў Сцяпанаўны каштуе 630 тысяч, мужчынская — 850 тысяч. «Лён даражэ, набывай, дачка, зараз», — раіць яна.

**Ірына Арахоўская, фота аўтаркі**

## У мінскім гандлёвым цэнтры адкрылася крама вышыванак

Анлайн-крама Symbal.by распачала гандаль у павільёне 333 на трэцім паверсе ГЦ «Маскоўска-Венскі» па адрасе пр. Незалежнасці, 58.

Штодня з 12:00 да 20:00 у павільёне можна набыць не толькі традыцыйныя для Symbal.by вышымайкі, магніцікі ці торбачкі, але і сапраўдныя вышыванкі вытворчасці УП «Скарбніца», а таксама «Вершніцу», пра якую столькі гаворкі (**старонка 4**).

Як распавёў «Нашай Ніве» дырэктар крамы Symbal.by Павел Белавус, новая кропка адкрылася на месцы крамы «Мой модны кут», а прадукцыя «Скарбніцы» абраная праз высокую якасць пры прымальнай цане.

Абслугоўванне ў краме вядзецца па-беларуску.

У краме можна не толькі набыць рэчы ў нацыянальным стылі, але і бясплатна ўзяць стужку з арнаментам ці копію паштоўкі часоў БНР.

**Аляксандр Арсёнаў**

# «Чайка» ў Купалаўскім: Эгацэнтрызм забівае

**Новая пастаноўка Мікалая Пінігіна нагадвае пра важнасць сям'і. І любові ў сям'і.**




«Толькі тое цудоўна, што сур'ёзна», — кажа Чэхаў у «Чайцы» вуснамі другаснага персанажа — паскудненькага састарэлага плэйбоя, доктара Дорна. І ў гэтым геній Чэхава — ягоныя тэксты шматузроўневыя. У іх шмат ліній, плыняў, дэталяў. Няма такога чалавека, які б не знайшоў у Чэхава сваё, не пазнаў штосьці знаёмае са свайго жыцця і са свайго атачэння.

Мікалай Пінігін — «наша ўсё» беларускага драматычнага тэатра — апошнім часам ставіў пераважна асветніцкія спектаклі ці камедыі. А тут ён звярнуўся да псіхалагічнага канфлікту — ідэальны матэрыял для акадэмічнага тэатра, прычым без небяспечнай нацыянальнай сімволікі, якая была паставіла пад пагрозу нядаўняга «Пана Тадэвуша».

Папулярная актрыса Аркадзіна (уся такая тэатральная Зоя Белахвосцік) усё жыццё змагалася за поспех і грошы. І яна іх мае. І дзякуючы ім мае яшчэ і маладога каханка — моднага пісьменніка Трыгорына (увесь такі рыхлы, але ўсё ж маладая скура! — Раман Падаляка).

Сын Аркадзінай Трэплеў (Аляксандр Казела) вырас эмацыйна няўстойлівым. Ён спрабуе пісаць, але яго няма каму падтрымаць. Яму хочацца ў сталіцу ці за мяжу, але ён не робіць і не зарабляе, а мамка грошай не дае. Не дае, бо хоча, каб іх сабе з лішкам хапіла на ўсё сваё, упэўненая яна, доўгае жыццё, дый у сталіцы сын будзе маці перашкаджаць. Пакуль яго няма побач, мама адчувае сябе на 32 гады, а калі побач 25-гадовы сын, ёй становіцца 43.

Трэплеў кахае Ніну Зарэчную (Валянціна Гарцуева — дарэчы, у звычайным жыцці дачка Белахвосцік і вылітая мама). Толькі ён, псіхануты і нахохлены, не надта Ніну захапляе. Зарэчная марыць пра сталіцу, кар'еру і заводзіць раман з Трыгорыным. Ад гэтай сувязі нараджаецца і гіне дзіця...

А Трэплеў пераўжывае яшчэ большае прыніжэнне тым, што перад ім аддалі перавагу, прычым каму? Мудаку!.. Мяккацеламу мудаку! Толькі таму, што ён зорка! Можа, Зарэчная абдумалася, пакаялася, вернецца?

Вакол адны незрэалізаваныя і нешчаслівыя або шчаслівыя, ды эгаістычныя персанажы.

Доктар Дорн любіць паразважаць пра пад'ём людскога духу ці пра непаўторнасць атмасферы на вуліцах Генуі, але спіць з жонкай аканома, на якую і на праблемы якой яму, увогуле то, пляваць.

Дачка аканома Маша (Вікторыя Чаўлытка) кахае Трэплева, а яму на гэта пляваць.

Задушаны беднасцю настаўнік кахае Машу, а ёй на яго пляваць...

Усім на ўсіх пляваць, ланцуговая рэакцыя наплявальніцтва. Кожны сам па сабе, гледачы ў хатнім тэатры сядзяць за дзесяць метраў адзін ад аднаго.

Заганнае кола: бацькі ў апошнюю чаргу думаюць пра дзяцей, а мастацтва не паляпшае норавы, а збірае ахвяры.

Пінігін скараціў тэкст «Чайкі» амаль напалову. Выйшаў даволі кансерватыўны па сваёй філасофіі спектакль з ідэальна вытрыманым рытмам, мінімалістычнай сцэнаграфіяй і моцнай музыкай. Тэкст бездакорна перададзены па-беларуску Марынай Казлоўскай.

Рэжысёр не спрабуе арыгінальнічаць, але магчымасці сцэны і сучаснай тэхнікі выкарыстоўвае. Кашмары ствараюцца з дапамогай відэашэрагу. Па спектаклі рассыпаны элементы сённяшняга дня: кароткі ролік з запісам канца свету Трэплеў запускае на ноўтбуку.

Пінігіну ўдаецца ствараць «магію тэатра». Спектакль забірае ад першых хвілін і не адпускае, не дае расслабіцца да апошніх.

Мне не спадабалася толькі тое, што акцёры... Не, яны не збіваліся, не спатыкаліся. Але яны, амаль усе яны, спрашчалі персанажаў. Няма такога, каб, гледзячы на іх, сам сабе думаў: «А можа, ён... а можа, яна ўсё ж не настолькі...» Калі такая рэжысёрская задума, то гэта недаацэнка гледача: «толькі тое цудоўна, што сур'ёзна». Калі ж гэта праблема акцёраў, то хай працуюць над вобразамі. Зрэшты, будзе і іншы акцёрскі склад: Ганна Хітрык, Павел Харланчук, Ігар Сігоў задзейнічаны ў ім.

«Чайка» ў Янкі Купалы — гэта ўзровень. Гэта хай сабе не этапны, але моцны спектакль-напамін. Аркадзіны, трыгорыны, зарэчныя — яны і цяпер ёсць, сярод цяперашніх прымадоннаў, тэлезорак, палітыкаў і тых, хто імкнецца да гэтага статусу. Але тое, што ў часы Чэхава было трагедыяй вузкага кола багемы, у нашы часы стала трагедыяй масавай, тыповай, якая не выключаная нават сярод людзей, у руках якіх можа трапіць атамны чамаданчык.

**Мікола Бугай**

# «З вайны бацька прывёз не швейную машынку, а мастацкія паштоўкі»

Мастак **Аляксей Марачкін** святкуе 75-годдзе.

**«Наша Ніва»: Спадар Аляксей, нехта, відаць, паспеў павіншаваць Вас з юбілеем: у Вас жа дзве даты дня нараджэння.**

**Аляксей Марачкін:** Паспелі. Я заўсёды тлумачу гэтую блытаніну. Сапраўдны мой дзень нараджэння — 30 сакавіка, «на Божага чалавека Ляксея нарадзіўся», як маці сказала. А калі я пайшоў у першы клас, ведаў толькі, што ў сакавіку, але не ведаў даты. Чамусьці дзясятка спадабалася. Так і з'явілася 10 сакавіка. І пачала «гуляць» у афіцыйных дакументах. А ў даведніках па мастацтве ўжо фігуруе 30 сакавіка.

Гэта ж было перад вайной. Бацька паехаў на заробкі. А калі па праўдзе казаць, ён уцякаў ад НКВД. У 1938 ці 1939 годзе яго хацелі паставіць старшынёй сельсавета. А нехта яму шапнуў, што папярэдняга старшыню арыштавалі. І сказалі: «Антон Мікалаевіч, бяры торбу, сухары і едзь куды далей».

**«НН»: І як склаўся яго далейшы лёс?**

**АМ:** Ён паехаў добраахвотна на Далёкі Усход. А вярнуўся ў 1941. Тады быў прызыў — і яго забралі на вайну. Быў на самай перадавой: параненых і забітых выносіў. Адзін раз быў лёгка паранены аскепкам у руку. Атрымаў ордэн баявога Чырвонага Сцяга.

**«НН»: Кім былі бацькі?**

**АМ:** Маці — Хадора Хролаўна, вясковая дзяўчына. Пісаць, чытаць не ўмела, але распісвацца навучылася. І грошы лічыла. А бацька — я ганаруся! — вясковы інтэлігент. Пасля вайны ён завочна скончыў Магілёўскае культасветвучылішча і быў вясковым бібліятэкарам. І праз мае рукі заўсёды праходзілі кніжкі. Асабліва падабаўся часопіс «Огонёк», бо ў ім былі каляровыя ўкладышы з рэпрадукцыямі карцін расійскіх мастакоў.

Чытаць я навучыўся да школы. Школьнікам ужо маляваў. У пятым класе я дагнаў Івана, якога клікалі Ямелем: ён тры гады прасядзеў у адным класе. Ён сказаў: «Ляксейка, нашто табе гэтая школа, ты і так усё ўмееш». І я ўсю зіму прагульваў школу... На лыжах катаўся! А тут сігналы бацьку ішлі: ён мяне ганяў. І ў 5 класе я застаўся на другі год. Адчуў, што бацькава дзяга балючая, і закончыў 10 класаў.




Латушка прасіў у мяне намаляваць Багдановіча

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аляксей Марачкін**

— мастак, педагог. Творчы псеўданім Алесь Мара. Нарадзіўся 30 сакавіка 1940 года ў вёсцы Папоўшчына (цяпер Новая Слабада) Чэрыкаўскага раёна. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў. Сябра Саюза мастакоў. Заснавальнік мастацкай суполкі «Пагоня». Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Яго пэндзлю належаць палотны «Маці Божая ахвяр Чарнобыля», «Палеская мадонна», партрэты Рагнеды, Кірылы Тураўскага, Міколы Гусоўскага, Льва Сапегі. Піша і на палітычныя падзеі («Навала», «Хрыстос і Антыхрыст», «Какей»).

Аўтар паэтычнай кнігі «Калодзеж у жыце».

**«НН»: Бацька — вясковы інтэлігент. Ён ухваліў Ваш выбар быць мастаком?**

**АМ:** Казаў: «Ты, Ляксейка, гультай. Нічога не ўмееш — толькі маляваў бы». А я на замерзлых шыбах розныя ўзоры цвіком шкрабаў. Не памятаю, каб ён з вайны прывёз швейную машынку ці нешта такое, а прывёз ахапак паштовак. Як пасля высветлілася, гэта былі рэпрадукцыі з Дрэздэнскай галерэі, Луўра. Яму не было абыякава, што я малюю. Але я ўсё самастойна спасцігаў.

У нас на Магілёўшчыне мужыкі не гаварылі: «Намалюй мяне». Казалі: «Скрытыкуй». Бо пасля вайны дужа папулярны быў часопіс «Вожык», а ў ім — адны карыкатуры. І мяне запрашалі ў школьных альбо калгасных сценгазетах «скрытыкаваць» кагосьці. Але адзін раз мяне пабіў аднакласнік. «За што ты майго бацьку скрытыкаваў?» А ён быў п'яніца: намаляваў яго з бутэлькай. Гэта быў першы «ганарар».

Старэйшы хлопец з маёй школы, Вася Сталяроў, паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча. Мне былі цікавыя яго малюнкі, я яму свае паказваў. І гэта таксама паўплывала: мне захацелася ў вучылішча. Але па конкурсе не прайшоў. Памятаю, тады дырэктар Краснеўскі выклікаў такіх, як я, і сказаў: «Хлопцы, тут перабор. Бярыце дакументы і едзьце ў Віцебск: там без конкурсу вас прымуць». Прынялі. І наш выпуск быў першым на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педінстытута. Са мной вучыліся тыя, хто ўвайшоў у гісторыю беларускага мастацтва. Найперш Мікола Кірэеў і Феліск Гумен.

Пасля мяне забралі ў армію. Але мяне турбавала, што я не займеў тое, чаго хацеў. А хацелася вучыцца ў Маскоўскай альбо Ленінградскай акадэміі мастацтваў. Але папярэдзілі, што беззнайдзейна — без знаёмства не паступіш.

### «Як я спаліў танк»

— Я служыў танкістам у Пячах. Але салдат я быў нікуды не варты — танк спаліў.

**«НН»: Як гэта?**

**АМ:** Зімой сказалі: на макетах ты навучыўся кіраваць, сядай у сапраўдны танк. Я залез і ўсе кнопкі ўключыў. Сістэма не вытрымала напругі — і пачала гарэць праводка, схапілася полымя. Я ледзь ўцёк. І танк выгарэў ушчэнт: чорны стаяў на белым снезе. І старшыня Галапупенка ўвесь час казаў: «Глядзіце, якую шкоду радавы Марачкін нанёс нашай доблеснай Савецкай арміі». «Ты ведаеш, колькі ты кароў спаліў?» — казаў ён (ацэнка была не ў гарэлцы ці валюце, а ў каровах). На гаўптвахту мяне не пасадзілі. А пасля навучылі на танку ездзіць. Мне падабалася, што не трэба вучыць правілы дарожнага руху.

## Аднойчы мяне пабіў аднакласнік. «За што ты майго бацьку намаляваў?»

**«НН»: У арміі была магчымасць маляваць?**

**АМ:** Была. На другім годзе службы мы з адным хлопцам у Доме афіцэраў арганізавалі студыю. Вучылі дзяцей маляваць. З Барысава нават у Печы прыязджалі. Адзін даволі вядомы мастак — Мікола Ісаёнак — займаўся тады ў мяне. Ён да гэтага часу кажа: «Ты ж мой настаўнік».

Пасля войска нейкі час я працаваў у школе №4 у Жодзіне. Жонка туды з малым сынам пераехала. І я пайшоў вучыцца. Конкурс ў Тэатральна-мастацкім інстытуце тады быў велізарны: 9 чалавек на месца. Я паступіў да прафесара Івана Ахрэмчыка. У маім лёсе ён адыграў вялікую ролю. Казаў: «Я цябе ганяю, але з цябе толк будзе».

### «Латушка папрасіў у мяне партрэт Багдановіча»

**«НН»: У 1989 Вы адмовіліся ад звання заслужанага мастака БССР. Творцу яно не патрэбна?**

**АМ:** Званне давалі групе мастакоў, і чалавекі тры адмовіліся. Тады толькі фарміравалася наша мастацкая суполка «Пагоня». І мы хацелі зламаць стэрэатыпы, званні. Для рэжыму гэтыя званні патрэбныя, каб прыручыць, каб ад іх залежалі. А хацелася быць свабодным. І пасля на адным са з'ездаў мастакоў была ініцыятыва скасаваць званні «народнага», «заслужанага» — не пазбавіць тых, хто атрымаў, а скасаваць надалей. Толькі адзін чалавек устрымаўся, астатнія прагаласавалі «за». Але ўсё пакацілася па сцежцы былога Савецкага Саюза.

**«НН»: Вы ўваходзілі ў аргкамітэт па стварэнні БНФ. Чаму не пайшлі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета, каб вось такія пытанні і вырашаць?**

**АМ:** Што ты, маладыя гады былі — я ішоў у народныя дэпутаты. У мяне канкурэнтам быў Чаргінец. Цікава, што тады завалілі і мяне, і яго. А пасля быў новы тур, але я не ўдзельнічаў.

**«НН»: Адносіны з уладамі ў Вас не складваюцца. Карціны часта здымаюць з мастацкіх выстаў праз іх палітызаванасць. А некалькі гадоў таму Вы хадзілі на сустрэчу з тагачасным міністрам культуры Паўлам Латушкам. З чым звярталіся да чыноўніка?**

**АМ:** Латушку я ведаў яшчэ да міністэрства, і калі ён не быў нават паслом у Польшчы. Ён прыходзіў да мяне ў майстэрню. Я яму карціну маляваў — прасіў у мяне Багдановіча. Я бачыў, што гэта вельмі сціплы і культурны чалавек. Здавалася, што ў яго вялікая будучыня. І калі ён стаў міністрам культуры, захацелася сустрэцца. Ён яшчэ сказаў: «У мяне на шафе вось стаіць рэпрадукцыя Вашага трыпціха, прысвечанага 1000-годдзю летапіснай Літвы». Я прапанаваў яму стварыць грамадскі орган пры міністэрстве з экспертаў, якія б выказвалі думкі адносна культурніцкіх падзей. Ён на гэта пайшоў. Але затым усё ляснулася — не працуе.

**«НН»: У Беларусі ёсць багаты бізнэсовец Алег Хусаенаў, які калекцыянуе карціны. Вашы творы ў яго ёсць?**

**АМ:** Не ведаю яго. Я рэдка калі даю карціны на продаж. Раблю выставы, з якіх творы прадаюцца. Часам адмыслова прыходзяць да мяне людзі. У Літве ёсць бізнэсовец, які купляе ў мяне нонканфармісцкія творы. Я не бачыў, але кажуць, што ён іх у офісе выставіў. А тут многія баяліся такія карціны на выставе паказаць. Ёсць мастакі падкапытныя, як я іх называю, якія выконваюць дзяржаўныя замовы. Мяне ж не запрашаюць. Але я не бядую.

Чыноўнікі не хочуць мяне заўважаць. Навошта я пішу такія карціны? І мае калегі гаворадь: пішы кветачкі, ты ж умееш, а не на палітычныя тэмы. Я гэта пішу, бо пра гэта думаецца. А перад палатном — як на споведзі. Гэты негатыў я выплюхваю на палатно.

Вось пра што хачу сказаць. Сёння мастакі стогнуць ад непамернай платы за майстэрні. Я атрымліваю пенсію 3,8 мільёна рублёў, а плаціць трэба амаль 4 мільёны за майстэрню. Добра, што з сынам Ігарам напалам тут працуем і плацім. А многія адмаўляліся ад майстэрняў. Чаму рэлігійныя структуры, найперш праваслаўныя, пазбаўленыя падаткаў, а мы, мастакі, працуем на фронце духоўных каштоўнасцяў, не? Што мы, карціны на той свет возьмем? Застануцца тут.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

# Гісторыі з савецкага часу: як Лявон Баразна прывёз жонку з паходу

**Сярод матэрыялаў апошняга, вельмі моцнага, нумара незалежнага літаратурнага часопіса «Дзеяслоў» — успаміны Зянона Пазняка. Гэта выключна цікавыя мемуары. І мы з ласкавай згоды «Дзеяслова» прапануем Вам скарочана частку іх.**


Зянон Пазняк, 1964 год.

Так супала: рамантызм у мастацтве і ўтварэнне нацый і новых краін. А паколькі супала, то няма ніякіх перашкодаў думаць, што рамантызм выхаваў новы тып асобы, здольнай ахвяраваць дзеля дабра ўсіх, дзеля вялікай светлай ідэі, за якую можна было пайсці на барыкады і смерць. Тут няма месца сквапнасці, меркантыльнасці, дзеянням дзеля ўласнай выгады, але ёсць паклікание, пасвячэнне і любоў.

Нацыянальнае адраджэнне ўспрыняло рамантызм як каштоўнасную мадэль паводзінаў у жыцці дзеля Айчыны. Людзі ішлі да людзей — у вёскі настаўнікамі; лекарамі, каб лячыць народ, дапамагаць; кнігаошамі, каб распаўсюджваць роднае слова; акцёрамі, каб несці са сцэны карціны народнай красы ды ідэі яднання; ксяндзамі, каб настаўляць паству ў любові да Бога, бліжняга, роднага і свайго, і нават баламутамі, каб падбіць сялян на змаганне.

Па сіле ўздзеяння на мадэль паводзінаў патрыятычнай моладзі ў грамадстве былой Рэчы Паспалітай, відаць, найбольшы ўплыў меў Станіслаў Выспянскі сваім знакамітым «Вяселлем», упершыню пастаўленым на кракаўскай сцэне ў 1901 г.

Дзея п’есы заключаецца ў тым, што адукаваны паэт-інтэлігент, жыхар сталіцы і госць салонаў жэніцца з патрыятычных перакананняў (але па каханні) з вясковай дзяўчынай, прыгожай, але простай, без асаблівых задаткаў і, зразумела, неадукаванай.

Сацыяльным вынікам паказу «Вяселля» сталі рэальныя факты пераймання фабулы п’есы ў паводзінах людзей. Польскія інтэлігенты сталі жаніцца з простымі сялянкамі, мяркуючы ўмацаваць патрыятычны дух праз аўтэнтычную польскую сям’ю.

У рэальнасці нічога добрага з гэтага не атрымалася акрамя шкоды і ўскладнення лёсу.

Усе гэтыя рэмінісцэнцыі ўплываюць у мае думкі, калі ўспамінаю пра свайго добрага загінулага сябра — мастака Лявона Баразну.

Лявон нарадзіўся на Талачыншчыне 4 снежня 1928 года. Адбыўшы савецкае войска, вучыўся ў Менскім мастацкім вучылішчы па класе жывапісу. Але ўжо ў вучылішчы яго захапіла народнае мастацтва. Якраз памёр Сталін (1953 г.), і ў грамадскай атмасферы крыху пасвяжэла.

Лявон купіў капялюш, дажджавы плашч, закінуў за плечы паходны мальберт, кайстру з паперай, фарбамі, алоўкамі, узяў у рукі кій і пайшоў пехам па вёсках Беларусі збіраць, замалёўваць, фатаграфаваць творы народнай творчасці і ўжытку (найперш, адзенне, вопратку, арнамент).

Пра хлеб надзённы Лявон не перайма ўся, бо лічыў, што ў сваім народзе не прападзе. І не прапаў.

Аднойчы зімой, ідучы па дарозе, ён захварэў. Адчуваў, што была моцная гарачка. Яго трэсла і аж вадзіла, кружылася галава. Над вечар дайшоў да нейкай вёскі, пастукаў у хату, папрасіўся пераначаваць, сказаў, што захварэў. Гаспадар пагля дзеў на яго, пайшоў у сені і прынёс запыленую бутэльку з чорна-бурай вадкасцю. Адліў сабе чвэрць шклянкі, выпіў і потым — больш за палову Лявону і кажа: «Пі!»

– Што гэта? — спытаў Лявон.

– Настойка мухамораў на гарэлцы. Куляй — і заўтра будзеш здаровы.

Лявон выпіў. Яго паклалі на кажухі і кажухамі накрылі. Ён адразу праваліўся ў сон.

Прачнуўся днём адзін у незнаёмай святліцы. Была незвычайная лёгкасць у целе і ясная галава. Вярнулася здароўе.

Была тады яшчэ прыгода, якая паўплывала на яго жыццё. Аднойчы ён начаваў у нейкай вёсцы. На раніцу селі з гаспадаром за стол перакусіць ды пагаварыць перад дарогай. Лявон усё кідаў позіркі на печ, дзе за фіранкай сядзелі, шапталіся і хіхікалі гаспадарскія дочкі. Адну ён прыкмеціў з вечара, і позіркі яго, як кажуць у такім выпадку, былі мэтанакіраваныя.

Гаспадар прыкмеціў і пытае:

– Дык што, можа, каторая падабаецца?

– А ведаеш, гаспадару, падабаецца, — рагоча Лявон.

– Ну, дык бяры, калі падабаецца, — смяецца ў адказ дзядзька.

– А што, аддасі? Не шкода?

– Добраму чалавеку не шкода, — кажа дзядзька.

– Сур’ёзна?

– Якія жарты? Пойдзеш? — гукнуў ён за фіранку. Маўчанне. — Бачыш? Пойдзе, бо маўчыць.

А тады Лявон і кажа да дзеўкі:

– Збірайся. Паедзем.

Тая сабралася, і яны паехалі.

Выспянскі пісаў сваё «Вяселле» з натуры, з рэальнага факту, і да такога сюжэта, як з Лявонам, упэўнены, ніколі не дадумаўся б.

Тут мушу, аднак, зрабіць невялікае адступленне ад апавядання, каб зазначыць, што сямейныя праблемы майго сябра Лявона — гэта адлюстраванне становішча ўсёй беларускай патрыятычнай інтэлігенцыі таго часу. Інтэлігенту-адраджэнцу стала складана запачаткаваць паўнацэнную сям’ю. Практычна ўсе маладыя жанчыны з вышэйшай і сярэднеспецыяльнай адукацыяй (савецкі клас інтэлігенцыі) стоадсоткава былі зрусіфікаваныя. Ніхто з іх не гаварыў па-беларуску.

Для нас, маладых інтэлігентаў, гэта была сапраўдная жыццёвая трагедыя, банальная і прымітыўная — проста немагчыма было дабраць сабе пару. Пасля першага яе пытання — «почему разговариваете по-белорусскі» — было другое: «зачем этот белорусскій язык?» Пасля другога трэцяе, такое ж. А потым пачынаўся галаўны боль.

Я ўсё гэта перажыў сам і ведаю, як вырашалі сямейнае ўладкаванне мае калегі і сябры. Мала каму пашанцавала, і праз мытарствы прайшла бальшыня.

Лявон быў чалавек аптымістычны і рашучы, моцна верыў у свае магчымасці. Гэта яму спрыяла ў жыцці, але часта штурхала на вырашэнне складаных і нават тонкіх задач простымі метадамі. У праблеме стварэння сям’і ён прытрымліваўся рамантычнай пазіцыі апрашчэння і вялікага клопату не бачыў. Галоўнае, каб жонка была беларуска з добрым сэрцам і шанавала сваё. Астатняе набудзецца, не патонем. Можна ажаніцца хоць з пастушкай. Калі ў жанчыны ёсць здаровы беларускі грунт, то жонка будзе такой, як зробіш. Шчыра кажучы, мне гэта імпанавала. Я лічыў гэта сапраўдным мужчынскім падыходам. Можа, і сам паўтарыў бы ягоны «подзвіг», калі б жыццё ў каторы раз на простых прыкладах не перакуліла ўсё дагары нагамі.

Лявон прывёз маладую жонку ў Гародню, дзе працаваў у мастацкіх афармленчых майстэрнях. Неўзабаве яны ўехалі ў новую двухпакаёўку, і Лявон уладкаваў сваю сужэніцу з чатырма класамі адукацыі ў вячэрнюю школу, каб вучылася. Пачаў шукаць ёй працу. Але тут яна зацяжарала, вучобу кінула, а працаваць не хацела. Галоўны яе клопат стаў назіраць, каб муж прыносіў дахаты грошы, каб позна не прыходзіў, і даведвацца, дзе быў. А творчае жыццё мастака вядома якое. Ёй жа тое было незразумелае. Як з’явілася дзіця, у яе сфармавалася асаблівая манера размаўляць з мужам гучным крыкам, так, як крычаць, бывае, вясковыя бабы на мужыка п’яніцу. Калі ёй што не падабалася, яна не ўмела спакойна пра тое сказаць, не разумела, што значыць стрымлівацца ў словах. Увесь час гаварыла крыклівым голасам. Лявон спрабаваў ёй тлумачыць, чаму трэба не павышаць голасу, чаму трэба стрымлівацца, чаму трэба казаць абавязковыя словы «дзякуй», «прабач», «калі ласка», «ці можна?», «калі ты не супраць» і г. д. Яна слухала, а потым зноў, як заезджаная кружэлка: «што думаю, тое й кажу» (дакладней, тое і крычу).

Лявон сачыў за яе мовай і тлумачыў, чаму нельга перамешваць мову чужымі словамі. «Мы ўсюды гаворым па-беларуску, бо жывём у сваёй краіне, — казаў ён. — Калі хто чаго не разумее, то ты скажы, што трэба шанаваць родную мову. Прыйдзе час — і ўсё пераменіцца. І не дыскутуй, паварочвайся і ідзі».

Лявон разумеў, што яе паводзіны выкліканыя перайманнем нейкіх ідыёцкіх савецкіх стэрэатыпаў паводзінаў. Ён быў збянтэжаны і крыху разгублены, зразумеў, што прывёз «ката ў мяшку». Але не хацеў адразу прызнаць сваёй памылкі, не пакідаў надзеі. Спрабаваў нават сам яе вучыць, абклаўшыся падручнікамі за пяты клас. Увесь час даводзіў ёй, што не можна зацыклівацца на грошах (тым больш, што на пражыццё хапала). Казаў, што трэба вучыцца, развівацца, дапамагаць Беларусі, берагчы культуру і г.д. Спрабаваў навучыць яе ткаць беларускія паясы і дываны, швачную машыну купіў. Мала толку. Яны арыентаваліся на абсалютна розныя сістэмы каштоўнасцяў, у іх быў супрацьлеглы прынцып успрыняцця каштоўнасцяў (ідэальна-грамадзянскі і матэрыяльна-бытавы) і ўражлівае несупадзенне культурных запатрабаванняў. Пры гэтым яна лічыла свой падыход правільным (маўляў, як ва ўсіх людзей), а ўзровень мужа — ненармальнасцю.

Рамантычны шлюб развалі ўся. Разышліся, як сышліся, пусціўшы на свет няшчаснае дзіця, доступ да якога Лявону быў нялёгкі.

Лявон пакінуў жонцы ўсё. Сам пайшоў як стаяў. Паступіў у Мастацкую акадэмію на аддзяленне ўжытковага мастацтва.

Інстытут выдзеліў яму інтэрнат і пасяліў якраз у той пакой, дзе быў я. Гэтак мы пазнаёміліся і сталі сябрамі на ўсё жыццё.

Я тады разам з Алесем Лабанком, Алесем Ціхановічам і Галінай Бальчэўскай узяўся падрыхтаваць вечар паэзіі, дзе чыталі вершы заходнебеларускіх паэтаў Васілька, Родзевіча, Сваяка, запрасілі Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча. Была поўная зала (а гэта асобаў 300—350) і вялікі розгалас, у выніку якога на нас пачаўся ціск і мяне вытурылі з інстытута.

У інтэрнацкім пакоі нас было пяцёра студэнтаў: Лявон, я, Барыс Луцэнка, Валодзя Балабохін і Валодзя Таміла. Праз пару гадоў ціск пайшоў і на Лявона. Ягоная былая вясковая жонка панапісвала на яго («какой он негодяй») кучу лістоў у інстытут, у Міністэрства культуры, у Саюз мастакоў. Рэктар Павел Масленнікаў — чалавек здаровага сэнсу, які ведаў тую «справу», выкідваў іх у сметніцу. Але потым кіраўніцтва інстытута змянілася, і Лявону даводзілася даваць тлумачэнні.

Аднойчы позняй восенню Лявон прыйшоў позна, быў сумны і заклапочаны. Потым кажа мне, што не ведае, што рабіць, дрэнныя справы. Даў мне пачытаць ліст. Гэта быў ліст дзяўчыны, вясковай настаўніцы (піянерважатай), закаханай у Лявона, якую душылі і пераследвалі ў школе за беларускія погляды і за знаёмства з «нацыяналістам» Баразной, прышывалі ёй «амаралку», ставілі пытанне аб выгнанні з працы. Ліст быў шчыры і добры, адчувалася светлая істота і збянтэжаная душа. Нічога яна не прасіла, толькі пісала словы міласці, сведчыла, што ёй цяжка і не ведае, што рабіць — яе імя зганьбілі на ўвесь раён. Мяне моцна праняло тое, што я прачытаў.

– Ну, бачыш, — кажа Лявон, — сабакі, псіны, задзюбаюць дзяўчыну. А? Не ведаю, што рабіць.

Я распытаў пра іхнія адносіны, ці даўно яе ведае і да т.п., але, ведаючы яго гісторыю з вясковай жаніцьбай, маўчаў. Лявон то сядзеў, то ўставаў, то глядзеў у вакно. «Затуркаюць, псіны, зацюкаюць!» — абураўся. А потым глядзіць на мяне і кажа неяк па-дзіцячаму (а сам старэйшы ад мяне на 15 гадоў):

– Ну дык што тут рабіць?

Тады я кажу:

– Калі ты хочаш ўратаваць яе ад ганьбы і праследу і калі яна для цябе нешта значыць, то ёсць толькі адзін шлях, які ўсё вырашыць.

– Ну?

– Жаніся. Бяры яе з ксяндзом, папом ці без папа, прывозь сюды, у Менск, і хай яны там падушацца. Так, як напісаны гэты яе ліст, дрэнная дзяўчына не піша. Тут без фальшу. Светлая душа.

– Дык кажаш — жаніцца? — Лявон ажывіўся.

– Рашай сам, — кажу, — толькі цяпер. Збірайся і едзь. Цягнік на Гародню ў 23.50.

– А і праўда. Усё. Еду.

Лявон хутка сабраўся. Потым кажа:

– Халера, і гальштука няма.

Я даў яму свой чырвоны гальштук:

– Во, — кажу, — якраз вельмі добра, да піянерважатай едзеш. — Лявон засмяяўся, і мы паляцелі на вакзал.

Праз нейкі час Лявон прывёз маладую жонку Марылю, разумніцу і з гумарам. Яна адразу ўпісалася ў нашае мастацкае беларускае жыццё. Неўзабаве адна за адной нарадзіліся дзве дзяўчынкі. Лявон хадзіў заўсёды вясёлы і ўвесь час жартаваў...

15 жніўня 1972 года яго забілі ў цэнтры сталіцы, як стала зразумела, у выніку распрацоўкі савецкага КГБ па барацьбе з беларускім нацыяналізмам. Асноўны забойца адмовіўся даваць паказанні і цвердзіў увесь час толькі тры словы: «Я сын Сталіна». Яго гэтаму падвучылі, інакш бы шмат што адкрылася.

Забойства Лявона Баразны ўскалыхнула тады нас усіх. Гэта была вялікая страта для Беларусі. Яго магіла, як і магіла Каліноўскага, і сотняў іншых ахвяраў Масквы, засталася неадпомшчанай, і гэты спіс павялічваецца.

На «Дзеяслоў» лёгка падпісацца праз пошту. Індэкс 74813 (для індывідуальных падпісчыкаў). Тэл.: 200-80-91.

E-mail: dzieja@tut.by

# Пустка замест Раю

Піша **Валерый Гапееў**.


Стары дуб у Аброве з дзясяткам бусліных гнёздаў.

Навалілася, змяшалася ў клубок, не адшукаць канцоў... І той клубок качаецца ў мазгах гэткай пульхнай жоўтай губкай, збірае ў сабе ўсе іншыя эмоцыі, думкі, адчуванні. Вось назбіраецца за дзень столькі многа і рознага, быццам і забыўся на той круглы камяк, што прагне эмоцый, а ён надвячоркам, калі дазволіш сабе адпачынак ад усяго і ўсіх, згатуеш кавы, прыпаліш цыгарэту і выйдзеш на балкон, раптам ажыве, пракоціцца туды-сюды, прамакне-высушыць свежае і сваёй няўтульнай шурпатасцю зноў верне думкамі да тых дзён і размоў.

Мабыць, трэба б было пісаць нейк па-журналісцку, пабудаваць грунтоўна сістэму пасылак і доказаў, але — навошта? Для каго я пішу гэта? Не артыкул жа... Таму няхай застаецца вось такі... такая плынь з ніадкуль у нікуды.

Мінулы лістапад, паездка ў Рагачоў. Вярнуўся тады разбіты ўшчэнт, быў запіс у Фэйсбуку, адчайны і максімальна песімістычны. Мяне тут жа абвінавацілі ў панікёрстве: маўляў, усе тут сядзяць у акопах, з вінтоўкамі наперавес, пільна сочаць праз прыцэл за непрыяцелем, а я тут бегаю з крыкам: «Мы ўсе памром!».

Памром...

Газета Рагачоўскага раёна «Камунар» ніколі не друкавала маіх вершаў. «Піянер Беларусі» друкаваў, а яна — не. Ух, крыўдна было. І, як на тое, рэдакцыя акурат насупраць аўтавакзала. Дык як ні едзеш — пабачыш, адчуеш укол... І вось, як казаў паэт: «Через годы, ізвестным...» У Рагачове, у школе, палова з прысутных дзяцей проста не разумела беларускай мовы. У «Камунары», дзе ў час майго юнацтва было толькі беларускае слова, спрэс — толькі руская мова. Ні аднога слоўца беларускага. Толькі назва... І адчуваеш нейкі абсурд, далібог. Быў вось «Камунар», гэткі інтэрнацыяналіст, а на роднай мове. А стала «Свабоднае слова» — і ні слоўца беларускага ў ім. І нават пра сустрэчу са мной у школе, дзе я казаў выключна на беларускай мове, напісалі журналісты на рускай мове...

Вось вам і раўнапраўе дзвюх моваў на практыцы.

Наша раёнка гэтаксама была перарэгістравана як выданне на дзвюх мовах. Адгэтуль пачалося — сталі друкаваць пазаштатных аўтараў на мове арыгіналаў, артыкулы чыноўнікаў і ад розных службаў. А там, бачыш, ужо і журналісты, асабліва маладыя, нясуць на рускай мове артыкулы. З удзячнасцю сёння згадваю нябожчыка Рыгора Радзюка: той сам пісаў толькі на беларускай мове і тое ж патрабаваў ад іншых. І нават на нечы пацучыны піск: «У нас жа дзве мовы дзяржаўныя», катэгарычна сек: «Як стане іншы рэдактар — як хочаце. А пакуль я...» Дзякуй Богу, сённяшні рэдактар, маладая жанчына, не змяніла адносіны да мовы газеты. Але матэрыялаў журналістаў усё больш на рускай мове. Адна, стаўшы праваслаўнай верніцай, ужо настойліва патрабуе свайго права на «раўнапраўе моў».

Гэта той самы казёл, як сказаў Валянцін Анціпенка, якога пусцілі ў агарод. Рагачоўскі «Камунар» — самы яскравы прыклад, над якім няма ніякага сэнсу «мудроствовать лукаво» — усё настолькі відавочна, настолькі на паверхні. Русіфікацыя раённага цэнтра на 99,99%. Як казаў мой сябра, былы дырэктар раённага музея, у горадзе не больш за 10 чалавек беларускамоўных.

І вось — спрэчка ў Фэйсбуку наконт беларускіх рускамоўных пісьменнікаў. Пры ўсёй павазе да сваіх сяброў, таленавітых Чарняўскай і Барташа (і яшчэ многіх іншых, якія, пэўна ж, расчараваліся ўва мне), калі мне трэба думаць над гэтым пытаннем, вочы засцілае «Свабоднае слова». І яшчэ сотні раёнак. Даводзіцца ж бываць раз на год ці радзей на курсах якіх, там сустракаешся, там гартаеш газеты калегаў — і ные, сціскае, заводзіцца сэрца, і хочацца, хапнуўшы добрую шклянку гарэлкі, гахнуць кулаком па стале перад носам свайго калегі і хапіць яго за грудкі: «Што ж вы, сукі, гоніце беларускую мову з газеты?»

Ды ведаю, што пачую ў адказ...

Помніцца, сваю адну выніковую работу на курсах я так і назваў: «Раёнкі — апошнія астраўкі беларускасці». Знікаюць. Як знікла праваднaя сетка вяшчання на беларускай мове. Дарэчы, раіў бы пацікавіцца, якое дачыненне мела да ліквідацыі беларускамоўнай сеткі праваднога радыёвяшчання расейская энергетычная кампанія.

Тым, хто прыводзіць лічбы пра 98 працэнтаў рускамоўных чытачоў у Беларусі, хачу расказаць з нядаўняга. Малады юрыст, натарыус. Ладзім анлайн-канферэнцыю. Адказвае на пытанні, размаўляем. Тэма не такая і простая, самі разумееце, таму тэкст назаўтра нясу да яе, зверыць, вычытаць. І вось пачынае яна чытаць... «Божа, як прыгожа ўсё гучыць...» — першыя яе словы пра тэкст. Мне не давялося ёй перакладаць ні сказа, ні слоўца, ні выраза. І на «скасаваць» яна не спатыкнулася, і «спадчыннікі» ёй былі зразумелыя, і «нашчадкі» не прымусілі задумацца.

Але ёсць яшчэ, што вярэдзіць мой розум ужо з два тыдні, што не адпускае сваім болем да гэтай пары, што сталася гэткай бэлькай над слупамі русіфікацыі. Дах будаваць будзе лёгка...

Прыйшоў допіс у рэдакцыю. Настаўніца са школы хвалілася: мы з вучнямі так пашчыравалі на могілках вясковых, дапамагалі наводзіць парадак! Там, маўляў, прыбіралі старыя дрэвы, якія могуць упасці і пашкодзіць помнік, а то і на чалавека...

Гляджу здымак. Даманаўскія могілкі. Помню іх візуальна: адразу за чыгункай зялёная выспа з векавых хвояў.

Пустка! Жахаюся, не веру. Званю ў сельвыканкам: так, усё спілавалі, ўсе дрэвы. Бо насельніцтва так вырашыла, сход правялі. А што ж, як упадзе — помнік раструшчыць, ага, пасля такія грошы... Званю ў ахову прыроды: ну так, мы ўзгаднілі, а што ж, насельніцтва... Кідаюся да дасведчаных службовых людзей: так, УСЕ дрэвы на вясковых могілках будуць прыбірацца. Усе! Бо могілкі перадаюцца на баланс камунальнікаў, тыя прымаюць толькі без дрэваў. А што? Вунь, амерыканскія паказваюць — прыгожа, акуратна, роўна, радочкамі... А скаргі ад людзей аж у Адміністрацыю: дрэва ўпала, агароджу пашкодзіла...

Лаўлю ў рэдакцыі выпадкова старшыню сельвыканкама. «Ты мне, — кажу, — як мужык мужыку, скажы: што вы робіце? Твой бацька дзе ляжыць?»

«Ды там, дзе і прасіў — пад хвояй, дзе некалі борці віселі», — адказвае. «А маці?» — «А маці прасіла бярозачку пасадзіць». — «Пасадзіў?» — «Пасадзіў, вялікая ўжо». — «Дык пілаваць будзеш хвою? Секчы бярозку?» — «Не, не буду... Іншыя будуць?» І ён разгублена застывае...

Так, ён не будзе — бо не яго сельсавет. Ён ужо арганізаваў вынішчэнне ўсіх дрэў на некалькіх могілках у сваёй гаспадарцы. Бачыце здымак? То могілкі. Вырай нашых продкаў сярод збажыны. Здымак быў зроблены даўно... Цяпер там — пустка.

Самы стары ў раёне дуб знаходзіцца на Бабровіцкіх могілках. «І там усё будзе ліквідавана». Тут дыханне займае...

Калі ў роднай Балотне пашыралі могілкі, бо стала цесна, казалі бацькі сваім дзецям: «Не кладзіце мяне на новыя... Там дрэў няма, вецер гуляе. У зацішак пакладзіце, знайдзіце месца. І вам добра будзе на Радаўніцу, цёпленька...»

То адразу ж пасадзілі радамі бярозкі на новым участку. Сёння яны падняліся, шумяць. Там утульна стала і зацішна.

Са страхам сёння і на наступны год паеду на радзіму. Дасць Бог, мо не дойдзе гэткая пошасць да Балотні так хутка...

На могілках нашых маглі ягады вырасці, грыбы нават. Але ніхто ніколі з могілак не браў нічога, табу было страшэннае. А тут стала вядома, што спілаваныя дрэвы з могілак «узялі на свае гаспадарчыя патрэбы» арганізацыі...Дрэвы, якія выраслі на крыві і касцях продкаў.

Самыя вядомыя ў Беларусі дрэвы менавіта на могілках растуць. Дзякуючы могілкам яны дасягнулі такога сталага веку. У нашым Аброве ёсць дуб, на якім гняздуецца мо дзясятак буслоў. Неверагодна стары. Ён стаўся сімвалам і глыбінным сэнсам — амаль мёртвы сам, ён трымае на сваіх моцных галінах само жыццё.

Калі хто не зразумеў, што адбылося, патлумачу ў двух словах: у беларусаў забралі адвечную традыцыю. У беларусаў гвалтам аднялі ўшанаванне продкаў. І не кажыце мне, што я перабольшваю, што тут нібыта ўсё «пачэснаму». Пры савецкай уладзе ніхто ніколі за могілкамі не сачыў — і былі яны ў парадку. Калі сёння палічыць па краіне, колькі сродкаў ідзе на вынішчэнне дрэў на могілках, гэтай сумы дакладна хопіць, каб за год аднавіць наш Косаўскі палац.

Што раптам здарылася, чым была выклікана такая пільная патрэба, каб траціць дзясяткі і больш мільёнаў на адны толькі могілкі? Што за стратэгічны аб'ект?

Для мяне — стратэгічны. Сакральны. І той, хто распрацаваў план вынішчэння беларускай сакральнасці, беларускай нацыі, — той таксама ведае, што робіць. Той таксама ведае сапраўдны кошт адной з самых адметных беларускіх традыцый — ушанавання памерлых бацькоў і дзядоў.

І маўчыце, прашу вас, заклінаю: маўчыце пра народ, які «сам прагаласаваў». Ён не толькі прагаласаваў, скажу вам больш — ён сам збірае грошы, каб вынішчыць сваё спрадвечнае месца, каб з Раю нябожчыкаў зрабіць пустку. Сотні мільёнаў сабраных грошай у адным раёне — людзі нясуць свае грошы, напалоханыя адным: каб жа некалі тое дрэва не ўпала, не паваліла помнік, не пагнула агароджу, бо ж грошы, грошы, грошы...

А пры чым тут мова, праўда?

Ды ні пры чым.

Калі толькі не лічыць, што культурныя і духоўныя традыцыі разам з мовай робяць нас нацыяй. Народам.

А цяпер даказвайце мне, што ў нас усё добра, што мы не памром як беларусы, што праз 20 гадоў будзе беларуская «Вайна і мір», а беларуская сакральнасць не пераўтворыцца ў прымусовыя пагулянкі самадзейных п'янаватых артыстаў падчас розных кірмашоў і «народных святаў». І ўсім нам будзе шчасце...



**Валерый Гапееў**

Нар. 1963. Пісьменнік, журналіст. Жыве ў Івацэвічах (Брэсцкая вобл.), працуе ў раённай газеце «Івацэвіцкі веснік». Піша аповесці, апавяданні, у 2013 выдаў раман «Праклён».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Сонечнае зацьменне, якое беларусы назіралі 20 сакавіка, стала самым вялікім для Еўропы за апошнія 16 гадоў. Тысячы чалавек сачылі за сонцам праз зварачныя маскі, а таксама самаробныя прылады: напрыклад, разламаныя старыя дыскеты ці моцна задымленае шкло.**




ВІКТАР МАЛЫШЧЫЦ

**А 17 сакавіка беларусы любаваліся іншай рэдкай прыроднай з'явай. Надзвычай моцная магнітная бура суправаджалася палярным ззяннем. На працягу ночы свячэнне шмат разоў змяняла форму і колер, пачаўшыся з фіялетавых слупоў, пераходзячы ў зялёную паласу і ў рэшце рэшт квітнеючы амаль усімі фарбамі. На фота — бераг Дуброўскага вадасховішча каля Раўбічаў.**



**Часопіс «Таймер» апублікаваў першую беларускую фотасесію з мадэлямі вялікіх памераў. Здымкі выклікалі гарачую дыскусію ў інтэрнэце. Адны падтрымліваюць дзяўчат і заклікаюць прызнаць, што ў Беларусі большасць жанчын поўныя. Іншыя раяць мадэлям запісацца ў трэнажорную залу.**



**Падчас святкавання Масленіцы ў канцы лютага ў Стаўрапалі (Расія) спрабавалі прыгатаваць гіганцкі блін. Праўда, паўнавартасны блін не атрымаўся. Таму «кухары» зачэрпвалі яго кавалкі снегаўборачным шуфлем і раздавалі наведнікам свята.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Упершыню мяне назвалі злапомным 17 снежня 2003 года.

* * *

Запісаўся на курсы гіпнозу. Першы занятак не спадабаўся, таму я вырашыў заплаціць адразу за год наперад і больш туды не хадзіць.

* * *

Гонка ўзбраенняў — гэта калі ты купіў дрыль, а сусед — перфаратар.

* * *

У краму матрошак патрабуюцца старшы менеджар, менеджар, малодшы менеджар, асістэнт малодшага менеджара.

* * *

Выхавальніца дзіцячага садка здагадалася, што шакаладныя цукеркі былі з каньяком, калі дзеці сталі лаяць урад.

* * *

— Бабуля! Колькі кіламетраў да суседняй вёскі?

— Пяць было. А потым прыехалі спецыялісты, перамералі і сказалі, што тут сем. Цяпер ходзім лішнія два кіламетры.

* * *

Смешна чытаць артыкулы на тэму: «Калі б крымчукі прагаласавалі сёння, якія былі б вынікі?». Яны ж і год таму не галасавалі.

* * *

— Што вам перашкаджае быць самім сабой?

— Правілы этыкету і крымінальны кодэкс...

* * *

— Мне здаецца, ці ты да мяне няроўна дыхаеш?

— Дурная, я астматык, аддай інгалятар!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Польская інтэлігенцыя** павінна рупіцца не толькі аб сваіх — паляках, але і пра беларускі народ, які дае ёй хлеб штодзённы. У беларусаў 9 мільёнаў сялян, а інтэлігенцыі — мала; у паляках наадварот: «народу» — малая жменя, а інтэлігентаў — многа. І гэтыя інтэлігенты павінны працаваць не толькі для «сваіх», але і для беларускага сярмяжнага народу.

**«НН». №12. 1915.**

**Змена ўлады ў Кыргызстане** была для беларусаў як гром сярод яснага неба. Каб усенароднаабранага прэзідэнта асобныя хуліганствуючыя элементы павалілі за адзін дзень! Між тым апазіцыя нават не прэтэндавала на тое, што яна атрымала большасць галасоў выбарцаў. У лепшым выпадку — чвэрць. Але варта было рашуча ўзброенай ідэяй меншыні выйсці на плошчу і сказаць: «У адстаўку! Радзіма, свабода!» — як рэжым паслухмяна паехаў прэч.

**«НН». №12. 2005.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 24.03.2015.
Замова №933.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15012